# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3199) Год LXII | Беласток, 3 верасня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Дойная карова... → 3



Свята хлеба → 9



# Адукацыя — найлепшы шчыт

**Пазнаёміліся з Беластокам і сустрэліся з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа 25 жніўня прыехалі з візітам на Падляшша. Гэтая сустрэча ўпэўніла беларусаў па абодвух баках мяжы ў тэым, што жывем!**

Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа ў Менску быў заснаваны ў 1990 годзе па ініцыятыве беларускай інтэлігенцыі. Гэта была адзіная школа ў Беларусі, дзе ўсе заняткі вяліся на беларускай мове, а не на расійскай. У 2003 годзе беларускі прэзідэнт закрыў адзіны на Беларусі беларускамоўны ліцэй. Пасля ліквідацыі вучні былі кіраваныя ў іншыя школы. Большасць ад гэтага адмовілася. Яны вырашылі вучыцца падпольна. Такая сітуацыя застаецца па сёння. Ліцэй існуе дзякуючы рашучасці бацькоў, запалу настаўнікаў і прыхільным установам, у тым ліку польскаму Клубу каталіцкай інтэлігенцыі. Заняткі праводзяцца ў арандаваным доме пад Менскам. Ліцэй афіцыйна з'яўляецца філіялам адной з сярэдніх школ Гданьска. Падчас канікул студэнты вучацца ў Польшчы.

Усе выкладчыкі ліцэя гэта выдатныя спецыялісты: прафесары, літаратары, аўтары падручнікаў. Намеснік дырэктара школы прафесар Лявон Баршчэўскі (выкладае нямецкую мову і сусветную літаратуру) быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі ў час адлігі. Па пісьменніку Васілю Быкаву пераняў старшынства ПЭН-Цэнтра. Павал Церашковіч, настаўнік геаграфіі, з'яўляецца аўтарам падручніка па геаграфіі Польшчы на беларускай мове. Гэта магчыма адзіны няпольскамоўны падручнік па геаграфіі гэтай дзяржавы. Сам дырэктар ліцэя і адзін з яго заснавальнікаў Уладзімір Колас быў рэжысёрам. Менавіта ён, захапіўшыся культурай, якая пазбегла саветызацыі, зняў фільмы пра беларусаў Беласточчыны.

Сёлета вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа прыехалі таксама з візітам на Падляшша. Ліцэісты, як штогод, пачынаюць вучобу ўжо са жніўня з пабыўкі ў Польшчы, дзе вывучаюць польскую мову. Апрача таго маладыя людзі наведалі розныя цікавыя месцы, у тым ліку Белавежскую пушчу, Крушыняны. Дзякуючы экскурсаводу Юрку Баброўскаму, змаглі яны таксама адкрыць беларускасць Беластока. Самым важным момантам візіту ліцэістаў на Падляшша была сустрэча з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гісторык Славамір Іванюк ды галоўны рэдактар „Нівы" і заадно праграмны дырэктар „Радыё Рацыя" Яўген Вапа распавялі пра пачаткі і дзейнасць беларускага руху на Падляшшы а таксама праблемы і поспехі беларускай меншасці ў Польшчы. Сустрэчу завяршылі пытанні ліцэістаў да падляшскіх дзеячаў.

Ліцэісты выдатна ведаюць замежныя мовы, але таксама важнае, што ведаюць сваю — беларускую. Вясёлыя, начытаныя, без комплексаў. Яны такія, як іх сябры ў Польшчы. Менавіта большасць з іх хоча паступіць на заходнія ўніверсітэты. І гэта вельмі рэальныя планы, паколькі Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа ў Менску сёння лічыцца адным з найбольш прэстыжных ва ўсёй Беларусі. Як адзначыў настаўнік Павал Церашковіч, менавіта добрая адукацыя з'яўляецца найлепшым шчытом: „Калі чалавек адукаваны, крэатыўны — ён знойдзе сябе паўсюль, як бы не было цяжка сёння ў Беларусі. Гэта сапраўды-сапраўды цяжка, бо наша ўлада абсалютна непрадказальная. Нядаўна паабяцалі, што ўніверсітэцкая адукацыя будзе тры гады. У Туркменістане зрабілі двухгадовую адукацыю — зараз усе туркмены вучацца ў Беларусі. Аднак нават у тых умовах чалавек можа знайсці сябе, добра жыць, працаваць для сваёй сям'і і Радзімы таксама".



**ЯНА ХАРЭВІЧ:**

— Бацькі расказалі мне пра ліцэй, але выбар ужо належаў да мяне. Я думала пра плюсы і мінусы ліцэя і ў асноўным знайшла самыя плюсы! (*смех*) Ліцэй больш перспектыўны. Настаўнікамі тут працуюць прафесары. Нават географ адмыслова для нас напісаў падручнік (*смех*). Далей, у нас гісторыя на вельмі высокім узроўні дзякуючы настаўнікам (Валянцін Голубеў і Алег Трусаў), гэта вельмі паважаныя, нават у грамадстве, людзі. Спадар Лявон Баршчэўскі — выдатны філолаг! Чарговы плюс — атмасфера. Ліцэй гэта сям'я. Тут не так шмат людзей, кожны ведае адзін аднаго. На дзень нараджэння віншуем сябе ўзаемна, абдорваем нечым. Нават калі камусьці не складаецца з вучобай, і так вельмі добра ўспамінае ліцэй. Хаця мала такіх, якія дазваляюць сабе прагульваць школу. Узровень з году ў год вышэйшы. Мне падаецца, што калі я б зараз паступала, не мела б шансаў. Я ўжо на трэцім курсе і цяжка мне будзе пакідаць ліцэй. Хаця, каб паспець на заняткі, мне трэба ўставаць у пяць (*смех*).



**ВАЛЯРЫНА ДРОЗДАВА:**

— З выбарам ліцэя ў мяне звязана вельмі цікавая гісторыя. Я сустрэла сваю сяброўку ў аўтобусе. Яна вучылася менавіта ў гуманітарным ліцэі і па дарозе падрабязна расказала мне пра яго. Дзякуючы той дзяўчыне ўжо тры асобы з майго горада, Барысава, туды патрапіла. Не шкадую. Мне здаецца, што ў ліцэі навучанне значна адрозніваецца ад навучання ў звычайных школах. Няма такога, што настаўнік выклікае да дошкі, ставіць ацэнку і не клапоціцца пра гэта ці вучань разумее ці не. У нас настаўнікі застаюцца пасля заняткаў, калі ёсць такая патрэба. Наогул, у нас такое стаўленне, што настаўнікі і вучні на адным узроўні. Я сама пасля ліцэя хацела штудзіраваць у Польшчы. На самой справе многа выпускнікоў выбірае замежныя ўніверсітэты. Вучымся па ўсім свеце: у Польшчы, Канадзе, Нарвегіі...



**КАЦЯРЫНА ЖЫЛІНСКАЯ:**

— У ліцэі — па-рознаму. Некаторыя вучні прыходзяць з рускамоўных школ, як я, і ім на пачатку сапраўды складана ўсё зразумець, але з часам пераадольваюць цяжкасці. Тыя, якія прыходзяць з беларускіх школ, хутка ўключаюцца ў атмасферу ліцэя. Выпускнікі нашага ліцэя робяць нешта для Беларусі. Нам вельмі часта настаўнікі расказваюць пра ліцэістаў, якія сапраўды вядомыя для большасці беларусаў і не толькі беларусаў. Наогул выпускнікі нашага ліцэя да беларускай мовы ставяцца з пашанай. Проста пасля ліцэя ты разумееш, што гэта твая мова і ты павінен на ёй размаўляць. Хаця крышку, ці прынамсі яе ведаць.



**ЛАРЫСА АДУЦКЕВІЧ:**

— Трэба ж ведаць сваю родную мову, таму ў ліцэі большая частка ўвагі прысвячаецца вывучэнню беларускай мовы. Кожны ліцэіст яе вельмі добра ведае.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# 38-я
## паралель як ілюстрацыя

Апошнім часам стала модна параўноўваць дзве вялікія дзяржавы — ЗША і Расею. З'явіліся нават адмысловыя дыскусійныя перадачы, слухаць ці глядзець якія досыць цікава. Устаўлю і я свае „пяць грошаў" на гэтую тэму. Часам даводзіцца размаўляць з людзьмі на тэму палітыкі, і калі гэтыя суразмоўцы здольныя пачуць хоць нейкія аргументы, то варта тлумачыць сваю пазіцыю ім як мага прасцей, як кажуць „на пальцах". Простыя параўнанні зазвычай найбольш эфектыўныя і пераканаўчыя. Так і тут. Возьмем для пачатку хоць бы паказнік змянянальнасці ўлады ў гэтых дзяржавах, якія прэтэндавалі і прэтэндуюць на так званую сусветную гегемонію.

За апошнія 100 гадоў прэзідэнты ЗША змяніліся 17 разоў. Толькі некалькі з іх абіраліся на два тэрміны. Найдаўжэй кіраваў Франклін Рузвельт — 12 гадоў (1933-1945). Апошнія дзесяцігоддзі абіраліся на 2 тэрміны дэмакрат Біл Клінтан, рэспубліканец Джордж Буш-малодшы і дэмакрат Барак Абама. Але два тэрміны — гэта 8 гадоў, а не 18 гадоў, як ужо кіруе ў Расеі Пуцін і нават не збіраецца зыходзіць (спецаперацыю „плюшавы мядзведзік" па дэкаратыўнай змене крамлёўскай улады тут не ўлічваем). У Расеі, Савецкім Саюзе і зноў Расеі з 1917 года вярхоўная ўлада мянялася толькі 8 разоў. Крывавы Ленін дэградаваў псіхічна і сканаў у 1924 годзе, пасля гэтага вялізную дзяржаву амаль 30 гадоў тыраніў яшчэ больш крывавы Сталін. Урэшце ён канчаўся ў поўнай адзіноце ў лужыне сваёй мачы. Кукурузнік Хрушчоў трымаўся за крамлёўскі пасад 11 гадоў, пакуль не быў скінуты ў выніку „палацавага перавароту". Фальшывы герой „Малой зямлі" і нястомны барэц за мір ва ўсім свеце Брэжнеў сядзеў на вышэйшым камуністычным троне планеты 18 гадоў, пакуль яго не вынеслі нагамі наперад. Потым былі „бліц-партыі" крамлёўскіх старцаў Андропава і Чарненкі, якія „каранаваліся" зусім перад смерцю. І толькі ў 1985 годзе бліснуў прамень надзеі ў выглядзе гарбачоўскай перабудовы. Сам Гарбачоў і не думаў зыходзіць з прэзідэнцкай пасады, але імклівы распад Савецкага Саюза прадвызначыў канец яго кіравання. Першы кіраўнік новай Расеі Ельцын пачынаў як дэмакрат, але бясслаўна скончыў свой кіроўны тэрмін, уласнаручна па сваёй волі ці пад прымусам перадаўшы ўладу ў рукі непатапляльных кагэбэшнікаў.

Каб зразумець галоўнае адрозненне Амерыкі ад Расеі варта хоць бы крыху прасачыць вынікі іх замежнай палітыкі. І найлепшая ілюстрацыя тут Карэя і яе падзел на Паўночную і Паўднёвую па 38-й паралелі, у якім удзельнічалі ЗША і СССР. Пасля яго і грамадзянскай вайны 1950-1953 гадоў (якую скончыць стала магчыма толькі пасля таго, як сканаў Сталін) прайшло не так шмат часу па мерках гісторыі, але ўвесь свет выразна ўбачыў, як з аднаго народа можна зрабіць настолькі розныя дзяржавы. За гэты час Паўднёвая Карэя паводле амерыканскай мадэлі пераўтварылася ў багатую, развітую і дэмакратычную краіну, якая дасягнула надзвычай высокага развіцця эканомікі, культуры, спорту і іншых сфер жыцця. На іншым полюсе свету апынулася суседняя Паўночная Карэя, якую з асаблівым здзекам і цынізмам называюць Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай. Яе грудзямі выкармілі камуністычныя Масква і Пекін. Што з гэтага вырасла — добра бачна. Як вядома — па пладах пазнаеце іх. І цяпер жахлівы антычалавечы рэжым Паўночнай Карэі падтрымліваюць менавіта Расея і Кітай. Масква зараз нават сваіх кагэбэшнікаў паслала вучыць прыхільнікаў чучхэ як ахоўваць дарагога правадыра і чарговага „бацьку народа".

І не трэба нават больш іншых прыкладаў наступстваў знешняй палітыкі ЗША і Расеі. Хоць можна з гісторыі прыгадваць і ФРГ-ГДР, і розныя Кубы, афрыканскія рэжымы камуністычных канібалаў і многія іншыя.

Чым вялікая імперыя СССР-Расеі — гэта толькі сваёй агромністай, завяванай у многіх народаў тэрыторыяй. Гэта імперыя фізічнай сілы і гвалту, вынішчэння тоеснасці іншых народаў. Ніякай іншай ідэалогіі яна не можа прапанаваць паводле сваёй сутнасці і драпежнай прыроды. На жаль, многія беларусы гэтага і дагэтуль не ўсведамляюць.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Гудзенне мухі



Вяртаецца старое. Паўсюдная ў час «камуны» культура патранату зноў укараняецца ў нашай рэальнасці. У гэтым слове «патранат» змяшчаюцца партыйнасць і кумаўство ды ўдзел у сістэме. Знаходзіцца ў ладах з партыйнымі бажкамі гэта пажынаць велізарныя перавагі, недаступныя для людзей, не ўваходзячых у сістэму. Патранаж важнай партыйнай асобы вырашыць усе праблемы, рэальныя ці надуманыя, ад бытавых да чыноўніцкіх. Хопіць адзін званок ці нашэпт, каб атрымаць тое, што недаступнае для іншых, немагчымае ці нават забароненае. Здавалася б, 27 гадоў дэмакратыі ў Польшчы выкараніла эфектыўна з сацыяльнага і палітычнага жыцця скасаваную фігуру заступніка-патрона. На жаль, у сувязі з цяперашняй кіруючай партыяй, устала яна як зомбі з магілы да нядаўна мёртвых паняццяў.

Нядаўна шпацыраваў я з сабачкамі па прынараўскіх лугах, дзе выпадкова наткнуўся на сімпатычнага з выгляду панка. Сабачкі з задавальненнем гаўкнулі яму звычайнае «добрай раніцы», што было зразумелым для мяне, хоць неабавязкова для староніх. Чалавек, вядома, не разумеў гэтага ветлівага прывітання і, пардон, раздзёр сваю пысу. Мы сталі ашаломленыя, я і сабачкі, слухаючы з адлегласці 20 метраў шмат'ярусную тыраду раз'юранага панка. Ён пачаў з правоў і абавязкаў уладальніка сабакі, скарочана прадставіў свой палітычны радавод, хваляючыся знаёмствам з «віднымі актывістамі партыі ПіС» на Падляшшы, і скончыў цвёрдай заявай, што неўзабаве пазвоніць камусьці важнаму, хто загадае застрэліць маіх цюцікаў, ствараючых сур'ёзную пагрозу для мірных грамадзян. Яшчэ доўга пасля таго як мы пайшлі гэты джэнтльмен злаваўся і праклінаў, што мы бачылі па колах уструбаваных птушак, кружляючых над ім. Тым часам цвыркуны стракаталі свае сонечныя песні. Фуркаталі пралятаючыя спакойныя стракозы. А бліжэй неўдакладнены патрон незнаёмага ўздымаўся вышэй і вышэй над намі, як пагрозлівая навальнічная хмара. Яшчэ крыху, і секане па нас! — падумаў я з турботай. І так напужаныя дабеглі мы да бяспечнага дому. Толькі ці ён быў сапраўды бяспечны?

Заступніцтва, ці як бы іначай назваць гэтую з'яву, гэта маральна-палітычная асаблівасць. Тым не менш, яна ўключае ў сябе людзей, ахопленых моцнымі сувязямі. Міністр Шышка, патрон белавежскіх лесарубаў і паляўнічых з лоўчых кол ва ўсёй Польшчы можа разлічваць на іх моцную падтрымку ў наступных выбарах. Іх галасы старанна разлічаць патэнцыйныя ПіСаўскія бухгалтары. Вядома, атрымлівае асалоду ад гэтага обер-патрон Яраслаў Качынскі, схаваны як павук-крыжак за сеткай кампанейска-палітычна-партыйных сувязей. Калі верыць, што ён і яго калегі кіруюцца нейкай слушнай ідэяй, дык задаць трэба сабе пытанне — якой? Па-мойму, ніякай. Але нехта сказаў, што ПіС робіць рэвалюцыю ў Польшчы. «Рэвалюцыянеры, — як трапна пісала даследчыца грамадскага жыцця ў Савецкай Расіі Шэйла Фіцпатрык, — верыўшы, што рэвалюцыйныя змены ў канчатковым рахунку пойдуць на карысць грамадства, гатовыя ўводзіць іх сілай». Такім чынам, калі Права і справядлівасць робіць рэвалюцыю, грамадскі гвалт у краіне нас не абміне. Супраціў, як гэта было ў Савецкай Расіі, будзе разглядацца як прыкмета адсталасці, забабонаў і страхаў цёмных мас. «Пачуццё місіі і інтэлектуальнай перавагі не дазваляла камуністам слухаць меркавання бальшасці», — пісала Фіцпатрык у сваёй працы «Паўсядзённае жыццё пры Сталіне». Бо як жа, паважаючы сябе, рэвалюцыянер быў бы згодны прызнаць, што «воля народа» ёсць нечым іншым, чым ягоная місія, якую ён узяў на сябе дзеля народнага дабра?

Я спрабаваў знайсці нейкую мэтазгоднасць, нявай і місіянерскую, і ў дзейнасці ПіС. Але не знайшоў яе. Пустыя лозунгі, якія прапаведуюць ПіСаўскія дактрынёры, выходзяць з парожняга, хаця рэзанансная бубна прапаганды. Светлая будучыня, якую мае прынесці ўлада ПіС, так пустая, як і крывадушная. Патэрналізм, які ўбачыла Шэйла Фіцпатрык у дзейнасці бальшавіцкай партыі, па сутнасці не адрозніваецца ад ПіСаўскага. Паплечніцтва, якое так моцна прысутнічала пры «камуне», зноў-такі расцвітае. За ім жвава бягуць кумаўства, лады, кампанейска-групавыя гешэфты і, нарэшце, дзяржаўна-партыйны дыктат. Словам — вяртаецца «камуна». Можа мае словы будуць здавацца гудзеннем мухі, пакуль не трапім у нацягнутую павучыную сетку, расцягнутую над краінай місіянерамі ад ПіС.

❖ Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Вясковыя канікулы

Канікулы, канікулы. Для маладога і старога ў сённяшнім свеце гэта перыяд года, які вызначае іхнюю працоўную жыццяздольнасць на наступныя тыдні і месяцы. Зараз справа канікулаў і месца адпачынку з'яўляецца таксама добрай нагодай для ўсялякіх снабістычных спаборніцтваў у віртуальнай прасторы. З перспектывы часу, калі гляджу на сваё дзяцінства, то мае канікулы ў сваёй вёсцы, пазбаўленай сельскагаспадарчай тэхнікі, былі перыядам інтэнсіўнай фізічнай загартоўкі цела і духу пры сенакосе, жніве і ўсялякіх штодзённых, хатніх занятках. Адным словам, з раніцы да ночы праз фізічную працу разраджалі мы лішак энергіі маладосці і не мелі часу на класічнае, экзістэнцыяльнае пытанне сённяшніх падлеткаў і маладзёнаў: «нуднавата, што будзем рабіць, тата і мама?». Падыхаць крыху нудой з сябрамі на вуліцы, або правесці час пры кніжцы ці тэлевізары, то тыя моманты, якіх заўсёды тады мы безупынна чакалі. І тут з дапамогай для нашых вынашаных просьбаў прыходзіў найчасцей дождж, які на некалькі гадзін або дзён мяняў каляндарны рытм сялянскай прасторы. Былі яшчэ і адны, вельмі важныя канікулярныя, выходныя дні. Каб зусім не замуляцца ад працы і не ўпасці носам на зямлю, Усявышні загадаў шанаваць святую нядзельку. Трэба было ў царкву схадзіць, а потым адпачываць. У маёй прыпушчанскай вёсцы ўсе стараліся, нягледзячы на ўсялякія турботы, прытрымлівацца так устаноўленага парадку. У нас у царкву найчасцей выпраўляліся жанчыны з дзецьмі, а мужчынам адводзіўся час на палітычныя дыскусіі і гістарычныя ўспаміны на лавачках перад хатамі. Прытым вельмі часта рэзалі яны ў карты, а эмоцыі паміж ігракамі часта пераходзілі ў сваркі. Да працы тады ніхто не спяшаўся. Потым аднак заўважным стала, што і святая нядзелька пачала пераўтварацца ў будзённы дзень. Зямлі не прыбывала, тэхніка з'явілася, а часу на ўсе абавязкі пачынала не хапаць. Парадоксы аднаснасці ці паламаны рытм жыцця прынесць такую разбуральнасць?

Былі яшчэ і адны важныя дні перадышкі ў час летніх месяцаў. Менавіта, царкоўна-каляндарны цыкл святаў. Ён так раскладзены ў часе, што нават найбольшая нагрузка абавязкова кампенсавалася неабходным перапынкам-адпачынкам. І гэтых дзён мы таксама чакалі як збаўлення. Пятра і Паўла, Ілья, Ганна, Спаса, Успленне — то тыя святы, якія для сялянскай духоўнасці і абраднасці паказваюць бачную і нябачную ўзаемасувязь паміж чалавекам і магутнай маці-зямлёй — карміцельнай продкаў і сучаснікаў. На нашых вачах штогод адбываецца цуд праабражэння зерня ў хлеб. А сяляне менавіта задзейнічаны ў гэты сакральны абрад. Становяцца яны часткай вялікай таямніцы жыцця і Божага плана. Без іх цяжкай працы, малітваў, замоў, абрадных песень і звычаяў тая ж самая пладаносная зямля ў хуткім часе можа зарасці чартапалохам, лесам ці проста стаць пустыняй.

Вось гэтыя летнія святы ў маёй памяці сталі тым успамінам, калі мае бацькі і дзядулі пры застоллі ў гасцях ці дома размаўлялі перш за ўсё пра сваю працу на зямлі. Гэта былі і надалей ёсць святы земляробаў. А асвечаныя ў царкве па чарзе кветкі, яблыкі, каласы з'яўляюцца эстэтычна-выяўленчай формай нашай касмаганічнай прысутнасці. Менавіта тады, гледзячы ўжо з сённяшняй перспектывы часу, адчувалася ў размовах вялікая адказнасць і годнасць за сваю працу, вельмі часта цяжкую і няўдзячную. На жаль тады, як і сёння многімі яна недаацэненая, а нават часта абсмяяная. Такія святы і размовы — гэта былі менавіта і тыя рэдкія канікулярныя дні нашых бацькоў і дзядоў. Памятаю, як з такіх святкаванняў вярталіся яны радасныя, пазітыўна настроеныя, гатовыя да далейшай працы.

«Зямлю не ашукаеш, і людзей не ашуквайце» — такі самы просты запавет перадаваўся бацькамі нам штодзённа. Не гаварылі яны вывучанымі, філасофскімі фразамі пра мараль і адказнасць. Не чыталі кніжак пра жыццё і ягонія дылемы. Рэальнага жыцця з усімі праблемамі было ім пад завязку. Часта прыходзілася плакаць і горкімі слязамі. Але мелі адно — працу, мары, сэрца і душу, якія ўкладвалі ў зямлю і будучыню сваіх дзяцей.

❖ Яўген ВАПА




фота Ганны Кандрацюк

# Дойная карова і культурныя праекты

**Карыцінскі цэнтр культуры зладзіў спаборніцтвы па даенні кароў, уручную.**

**Задача аказалася не абы-якім выклікам для вяскоўцаў. На ўсю сялянскую гміну знайшліся тры ўдзельнікі: дзве маладыя жанчыны і дзядзечка. Яны прывялі з сабой кароў і публіку, а паколькі ўсё здымала рэгіянальнае тэлебачанне, удзельнікі шчасліва апынуліся ў цэнтры ўвагі.**

Ці трэба яшчэ больш прэстыж?

У канкурсантаў была адна задача — хто з іх у назначаны час надоіць найбольш малака. Змагаліся па пяць хвілін. Як не цікава, за гэты час жанчыны нацурболілі па тры літры, мужык — больш за шэсць. Свой поспех тлумачыў характарам каровы. Яна не спалохалася тэлекамеры, без лішніх падыходаў прыпусціла да сябе, спакойна стаяла ля плота, і галоўнае, была мяккай у даенні.

Мяккая карова — надта жаданы дабытак у колішняй гаспадарцы. Усе хацелі яе выдаіць, тут справа ішла проста і хутка. Кароў навучылася я даіць у семвосем гадоў, назіраючы за старэйшай сястрой. Яна даіла ды была важнейшай за тых, што не даілі. Навука пайшла гладка. Самы важны — псіхалагічны кантакт з каровай. Яе спачатку трэба было ўгаварыць, пачухаць. З часам завязвалася сувязь, а нават нешта накшталт сяброўства. Добрая карова заўсёды хацела прыслужыцца чалавеку. А калі па прычыне старасці яе збывалі (ніколі не рэзалі на мяса!), заўсёды былі слёзы і шкадаванне.

Карыцінскі пераможца таксама напамінаў чалавека дапрамысловай эпохі. Ён кантактаваў з каровай на ўзроўні жэстаў, эмацыйных паведамленняў тыпу: *А-нуууу!* А галоўнае, лічыў яе найважнейшай. Пасля перамогі ў конкурсе ён хваліў не сябе, а сваю красулю. Арганізатары праекта не патлумачылі ідэі спаборніцтва, кожны разумеў яе на свой спосаб. Для адных самай важнай была спраўнасць у руках, для другіх — лепшая якасць малака, неабходная для вытворчасці смачнага карыцінскага сыру, для іншых, такіх як я, сяброўства з каровай. Словам, усё тут падыходзіла, наклікала здагадкі і роздумы пра мінулае і сучаснасць. Напамінала, што рукі яшчэ патрэбныя чалавеку!

Другі праект, які здаўся мала папулярным у народзе, датычыў хады нагамі.

Нядаўна ўзнік адукацыйны шлях берагам Віштынецкага возера.

Гэтае возера памерамі і характарам напамінае мора. Па ім ідзе мяжа паміж Калінінградскай вобласцю і Літвой, прытым большасць прыналежыць Расіі.

У мінулым па возеры ішоў нелегальны гандлёвы шлях. Кантрабандысты перакідалі соль і кнігі, надрукаваныя ў больш ліберальнай Прусіі. За апошнюю дзейнасць кантрабандыстаў-кнігашоўаў расстрэльвалі на месцы. Сёння яны героі. Літоўцы пераканаы, што дзякуючы кнігашам, і асабліва іх кнігам, Літва дабілася незалежнасці. Віштынецкае возера асацыюецца яшчэ з дробным, залатым пяском, які служыў для асушэння паперы запісанай атрамантам. Віштынецкі пясок дастаўлялі ў многія краіны Еўропы, нават у сам Ватыкан.

Над Віштынецкім возерам заўсёды ажывае памяць пра Мельхіёра Ваньковіча. Аўтар культавага рэпартажу „Na tropach Smętka" перапльіў яго параллельна напярэдадні Другой сусветнай вайны. Ён, між іншым, пабачыў коней з польскіх Віжайнаў.

*— Толькі, якім цудам?* — разважаў угорлас С. родам ад тых жа Віжайнаў, — *такое фізічна немагчыма. Ванькові, відаць сам паплыў на хвалях фантазіі...*

Віштынецкае возера аколенае старым лесам, маляўнічымі ўзгоркамі, тут менавіта знаходзіцца самы высокі пік Літвы — Барсучая гара. А ў Віжайны, адсюль за дзесяць кіламетраў. Іх ніяк немагчыма ўбачыць з перспектывы возера.

Коні Ваньковіча і падобныя разважанні пра залаты пясок сталі для нас галоўнымі тэмамі на адукацыйным шляху. Раслінкі і звяры на стэндах здаваліся знаёмымі і менш важнымі. Усё з-за інфармацыйнай палітыкі. Веды пра флору і фаўну аўтары праекта прадставілі выключна на літоўскай мове. Прабіцца праз гэтую мову для людзей з Еўропы немагчыма, прытым кожны стэнд тут пазначаны значком ЕС, які фінансаваў праект. Па дарозе мы сустрэлі яшчэ нямецкамоўную сямейку. Яны, як і мы, карысталіся нагамі і нешта жыва абмяркоўвалі. Размовы і спрэчкі падбадзёрвай чароўны краявід, што крок адкрываліся жывапісныя панарамы на возера, якое мяняла колеры, раз бурліла як успененае мора, іншы раз напамінала лагодную прыстань.

Раптам у палове трасы загуло і зашумела, паказаліся людзі. Мы пабачылі кемпінг і пляж. Тут тоўпіліся дзясяткі літоўскамоўных турыстаў. Сем'і качавалі ля сваіх машын, з якіх гучала музыка, дзіка раздзіраючы цішыню старога лесу. Людзі раскошна вылежваліся на залатым пяску, загаралі на сонцы, купаліся ў чыстых хвалях возера або нешта жавалі. У вочы кінулася цётка, якая жменяй глытала амерыканскія чарніцы.

— Прыперлася з дровамі ў лес! — адзначыў С.

Ніхто з гэтых турыстаў не думаў карыстацца нагамі. Ды навошта ім адукацыйны шлях, там жа безупынна трэба падымацца пад гару, таптаць пяткамі гарачы пясок і сухія карані дрэў, цярпець смагу...

Нават да Святой гары, якая знаходзіцца непадалёк кемпінга, усе перліся на машынах, абвяшчаючы свой праезд назойлівымі гудкамі.

Святая гара — дзівосны цуд прыроды. На месцы прывітаў нас лес крыжоў, гаючая крыніца, заслоненая накрыўкай ад каструлі, мадэрная галерэя, валуны, салідны пад'езд для інвалідных калясак.



фота Ганны Кандрацюк

На векавых соснах красаваліся крыжы, ружанцы, сцяжкі розных краін ды фатаграфіі цудоўна паздаравелых. На іншых дрэвах віселі абстрактныя карціны, зьлепленыя з зялёнай гліны. Месца ўяўляла сабой дасканалае спалучэнне хрысціянства і язычніцтва. Ад гэтага багацця памутнела ў галаве. Раптам на адной глінянай карціне я прыкмеціла дзіва, якое несла ў сабе такое ж дзіўнае паведамленне. Праўда, там не было надпісаў. На карціне стаяў сівы конь, які напамінаў гаспадарскага каня і адначасова дзікага рысака.

— Ванькові нічога не прыдумаў, — трыумфальная аб'явіла я, — ён напісаў праўду пра коней ад Віжайнаў.

— Цікава? Якім цудам?

— Рэгіянальным, мясцовым!

Яшчэ да вайны ў наваколлі Віжайнаў існавала старажытнае павер'е, што кожны конь павінен напіцца вады з Віштынецкага возера. Гэтая практыка абяцала яму конскае здароўе і сілу. Мужчыны надта ахвотна выпраўляліся з табунамі на возера, ды самі няблага бавілі час. Пасля, калі міфічныя вандроўкі абарваліся за савецкіх гадоў, бо між мястэчкамі Віжайны і Віштынец вырас жалезны кардон, конскія паходы на возера падвіжайнскія мужчыны ўспаміналі з найбольшым сентыментам. Сам С. любіў напамінаць пра гэты звычай.

Мельхіёр Ваньковіч мог пабачыць на свае вочы такіх конскіх паломнікаў ад Віжайнаў. Мог таксама запісаць такую інфармацыю ад мясцовых людзей, але тэмы не развінуў і не асвятліў да канца. Вось, дзякуючы глінянаму коніку ў ляснай галерэі я паспрабавала сшыць мясцовыя міфы і факты, спалучыць іх з сучасным светам, пазбаўленым гаспадарскіх коней. Аднак у прыродзе нішто не гіне. Старажытны абрад над Віштынецкім возерам трывае як за даўніх гадоў. У ролі мужыкоў з канямі, я пабачыла турыстаў, бязвольна прыкаваных да сваіх машын. Многія механічныя коні стаялі літаральна ў вадзе і быццам іх жывыя папярэднікі, пілі ваду з возера.

Адукацыйная сцежка, якая паставіла на важнасць хады нагамі, заставіла думаць пра важнасць праектаў з удзелам дойных кароў.

**(гак)**

## Родную „Ніву” трэба шанаваць і купляць!

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета беларускі штотыднёвік „Ніва” прыходзіць у нараўчанскія крамы ГС і „Аргелян” ды на пошту ў некалькіх дзясяткаў экземпляраў. Купляе яе сем-восем чалавек, якія жывуць у Альхоўцы, Гушчэвіне, Новым Ляўкове, Лешуках, Міклашэве, Новінах, Плянце і ў Семяноўцы. Найбольш купляе яе сваім суседзям з Новага Ляўкова ды некаторым жыхарам іншых вёсак ніжэй падпісаны гмінны радны

І так, „Ніву” № 33 ад 13 жніўня гэтага года гартала — што мне добра вядома, бо туды я вазіў родны тыднёвік — сем асоб з Новага Ляўкова, тры з Альхоўкі і тры з Плянты ды па адной з Гушчэвіны і з Нараўкі. Да чытання „Нівы” ўключыліся пасля кароткага перапынку, між іншым, ветлівыя і сімпатычныя людзі Люба Леанеўская і Ян Драўноўскі з Міклашэва, Валянціна Галабурда (яна вельмі прыгожа спявае перш-наперш беларускія і рускія песні) з Альхоўкі і Анатоль Раманчук, зараз пенсіянер і гмінны радны з Гушчэвіны.

Калі выйшаў з друку 34 нумар „Нівы” (ён ад 20 жніўня 2017 года) і родны тыднёвік прывезлі ў крамы ГС і „Аргелян” у Нараўцы, усе яго экземпляры — што мяне вельмі цешыць — купілі. „Ніву” купілі, між іншым, Мікалай Скепка, сужонства Вольга і Віталь Скепкі з Новага Ляўкова ды настаўніца-пенсіянерка Валянціна Самойлік з Плянты. 22 жніўня гэтага года беларускі часопіс купіла ў Гайнаўцы Вера Клімюк з Плянты. Яна ездзіла да лекара і штотыднёвік купіла ў кіёску ў бальніцы. Чакала ў чарзе да лекара і мела шмат часу на чытанне. Прачытала ўсе допісы, якія перш-наперш датычылі Нараўчанскай гміны. Калі расказала мне, я пастанавіў пра гэта напісаць. Яна верная чытачка „Нівы”. Шмат гадоў таму наш беларускі часопіс даваў ёй да чытання святой памяці Уладзімір Клімюк (ён працаваў на чыгунцы і быў шматгадовым актыўным ніўскім карэспандэнтам), родны брат яе мужа.

23 жніўня г. г. завёз я „Ніву” перш-наперш бліжэйшым і далейшым аднавяскоўцам Лідзіі Казлоўскай, Шыману Харкевічу, Віталю і Вользе Скепкам ды Сяргею Целушэцкаму з Новага Ляўкова, а 25 жніўня — Івоне Пташынскай з Церамкоў (яна новая чытачка беларускага штотыднёвіка), Веры Клімюк з Плянты і Канстанціну Ярашуку (ён добры дэкламатар беларускіх вершаў ды сам іх піша) з Новін. Мой былы добры вучань, я вучыў яго, калі працаваў настаўнікам у стараляўкоўскай школе, Віталь Скепка прасіў перадаць падзяку ніўскім журналістам і карэспандэнтам за цікавыя артыкулы і допісы. Ён пастаянна чытае „Ніву” з 2006 года. Мае ў сваім вясковым доме ў Новым Ляўкове (ён мае таксама кватэру ў блоку ў Гайнаўцы, дзе раней жыў і працаваў на мэблевай фабрыцы ў горадзе) беларускія кніжныя календары.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Брыдкая пачакальня

У цэнтры вёскі Старое Ляўкова Гайнаўскага павета шмат гадоў таму пабудавалі пачакальню на аўтобусным прыпынку ПКС. Яна з керамічных пустакоў і драўляных бярвенняў. Арыгінальная. А якая яна цяпер?

Зараз тут брудныя пакрэмзаныя сцены, на падлозе поўна пяску і смецця. Цёмна тут, панура і непрытульна. Перад уваходам у сярэдзіну невялікага будынка пад дашкам адна з чатырох калон пасечана сякерай і так-сяк памалявана жоўтай фарбай. Сорамна сюды зайсці. „Пачакальня-брыда” — назвала яе адна зарэчанка, ранейшая жыхарка вёскі Бяндзюга (яна каля Сушчы) распаложанай на правым беразе ракі Нарвы.

Можа справай добраўпарадкавання пачакальні ў Старым Ляўкове зоймуцца солтыс і радны? Ужо даўно пара.

(яц)

# У Трасцянцы па-свойму

Віктар Стахвюк, арганізатар чацвёртага Пікніку з беларускай мовай: «У нас праходзіць свята на дзвюх мовах: літаратурная беларуская мова, бо ў нашых беларускіх школах, якіх некалі было 185, мы вывучалі дзяржаўную мову і таксама літаратурную беларускую мову, якая створана са шматлікіх дыялектаў, цэнтралізавана. Але апрача таго ёсць яшчэ мовы, якія некалі называлі дыялектамі: наша падляшская беларуская, стараруская мова». А літаратурнае амаль сямейна-вясковае літаратурнае свята адбывалася ў яго роднай вёсцы, вядомай ад стагоддзяў сваімі культурніцкімі і адукацыйнымі дзеяннямі. А папраўдзе несліся галасы роднае мовы над рэчкай, на ўрочышчы, дзе Віктар пабудаваў сваю самотню, дзе можна сярод цвіркату птушак і шуму ракі і лесу, пасаджанага самім Віктара і ягонай Альжбетай (што калісь з уласных сукенак шыла беларускія сцягі) — пісаць, чытаць, спяваць, слухаць і гуляць з сябрамі. А прыйшлі і прыехалі 5 жніўня сябры Віктара па пяры і госці-слухачы, і актыўныя ўдзельнікі бяседы з Трасцянкі, Нарвы, Гайнаўкі ды бліжэйшага і далейшага наваколля. Імпрэза чакаецца — культурная і застольная, проста пікнік з родным словам і песняй. На доўгіх сталах пад салідная паветкай ляжалі кнігі — у каго з пісьменнікаў ладны стосік, сведчыўшы пра прабыты літаратурны шлях, у іншых па дзве кнігі, але якія ўжо нашумелі на Беласточчыне і не толькі. На «Городіску» — такое імя мае гэтае старадаўняе месца, важнае для беларускай гісторыі і культуры. Віктар: «А гэтае месца — незвычайнае. Тут і «месца моцы». Тут 3800 гадоў таму стапрацэнтна была праславянская вёска, знайшлі тут старажытныя гаршкі, штрыхаваныя зарубінецкай праславянскай штрыхоўкай. Лешак Матэля, вядомы радыестэт, памераў, што тут ёсць 20 тысяч адзінак па шкале Бовіса. Проста — месца, якое дае нам сваю моц!»

Віктар Стахвюк, пісьменнік незалежны, хаця згуртаваны — намеснік старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», паэт, празаік, педагог і радыйшчык, глыбакаводны аквалангіст. Чалавек з біяграфіяй, якою можна было б запоўніць не адно жыццё. Шмат гадоў пражыў ён у польскім горадзе Чанстахова, затым у Беластоку... З 1992 г. па 1999 г. займаўся прыватным бізнесам. З 1999 г. па 2002 г. і з 2006 г. па 2008 г. дырэктар Радыё Рацыя. Пасля бадзяння па ўсім свеце і заснавання розных прыгодных бізнесаў (ён жа і заснавальнік марскога флоту Беларусі!), зноў вярнуўся ў сваю родную вёску, аднавіў Міленіну хату і тут жыве, дзеянічае і піша. Ён жа тут гаспадар на зямлі (цяпер ён гаспадарыць на 150 гектарах), якую ўзяў у свае рукі, гаспадарыць ды збірае плён. Адна асоба пасля напісала ў сеціве, што ён багацей, дык можа запрашаць творчых людзей на творчыя сустрэчы ў сваю маёмасць. Я дадала — вельмі працавіты і поўны задум, якія поўнасцю рэалізуе. А яго дарогі вядуць па ўсёй сухой і мокрай Еўропе, сённяшняй і вельмі старажытнай. Віктаравы веды могуць збіць з панталыку ды нават ашарашыць, хаця хтосьці можа іх назваць «байкай», як заўважыла адна з гасцей Ірына Мацкевіч з роду Вап з Мінска, паэтэса і выкладчык вышэйшай матэматыкі ды аўтарка пятнаццаці падручнікаў па навучанні каралевы навук. З Беларусі сярод аўтараў быў яшчэ Алесь Аркуш, таксама «майстар на ўсе рукі» — паэт, празаік, эсэіст, радыйшчык, выдавец. Былі яшчэ, апрача творчага гаспадара, і дзве аўтаркі з Беласточчыны, якія таксама займаюцца шмат чым апрача пісання, чытання ды «чаравання» жыцця — Міра Лукша з Беластока і Барбара Гаральчук з Бельска, але ўсё больш з Мокрага, куды на роднае месца ўжо вярнулася і адбудоўвае дзедаўскую хату. Барбара празаік, аўтарка выдадзенай двойчы кнігі пра бежанства і новай, свежай «Мёд» (выдавецтва «Суседзі») пра пасляваенае дваццацігоддзе і жыццё беларускіх сялян пасля вяртання «ў новую айчыну».








— Бачым, як узнікаюць вершы як на літаратурнай мове, так і на падляшскіх гаворках, — адзначыў Віктар Стахвюк, беларусіст, які ў апошні час адкрывае сваю душу на трасцяніцкай гаворцы.

— Ёсць патрэба такіх малых моў, як наша мова вёскі Трасцянкі. Лічу, што яна раўнапраўная, што нельга пра яе забываць. Бо што ж будзе, калі дзеці і ўнукі не будуць ведаць мову і будуць шукаць: а дзе яна, а чаму прапала? На ёй жа пісалі Статуты! А яна засталася ў паэзіі і апавесцях пра роднае.

— Важна, што людзі сустракаюцца ў час такіх імпрэзаў, — адзначыла Барбара Гаральчук, якая трэці раз наведала Пікнік. Піша яна па-беларуску, па-польску і на сваёй мокранска-бельскай гаворцы. Яна выпускніца Бельскага белліцэя, так як і яе сын. — Аўтары гавораць пра сваю творчасць, мары, выказваюць свае думкі. Інакш усё адбываецца на афіцыйных мерапрыемствах. Я люблю быць з людзьмі, бо яны натхняюць мяне. Пасля такіх сустрэч пішацца новае. Сядзім тут пад прыгожы небам, побач плыве рака, пачытаем свае творы, падзелімся думкамі. Чалавеку можа здавацца, што ўсё ведае і ўсё бачыў, што ён мае рацыю. А тут наступае абмен ідэямі, пачуццямі, эмоцыямі, узаемнае ўзбагачэнне. А што будзе? Калі не будзе нашых дзяцей, не будзе сёлаў, ды не будзе нічога. Калі чую, што нашы дзеці гавораць па-польску, вельмі мне прыкра. Калі я ў Мокрым наймалодшая, сэрца баліць. Трэба думаць не толькі пра тое, што было, але і аб тым, што будзе. Калі мы самі не гаворым па-свойму, і нашы дзеці не будуць гаварыць. Калі мы не чытаем, і нашы дзеці не будуць. Калі мы ўцякаем са сваіх вёсак, бо нам «варшава» мілейшая чым нашы хаты, дык я пытаюся, чаму мы прадаем нашы хаты. У Мокрым чужым прадалі свае хаты людзі, у якіх ёсць свае дзеці, але якім тыя хаты непатрэбныя. Чаму мы не робім для сябе, не шануем самых сябе, чаму не дбаем пра нашу зямлю?.. Што нас будзе лучыць, калі не наша зямля, наша вера, наша мова, нашы карані? Нашы сувязі, якія тут былі ад заўсёды.

— Ёсць час чытаць, ёсць час пісаць. Я сёння прыехала чытаць. Але я ўпэўнена, што праз тыдзень паліюцца новыя вершы, і ўсё гэта будзе зложана праз душу. Я пачала пісаць вершы ў трыццаць гадоў. Я ў чацвёртым пакаленні матэматык, у маім родзе шмат матэматыкаў. А вершы — у дапаўненне майго рацыянальнага і даюць мне паўнаважна выявіцца. Такія сустрэчы на прыродзе — гэта цікавей чым у нейкіх канферэнцзалах ці за кафедрай. Чалавек выйшаў з прыроды і тут душа чалавека раскрываецца лепей.

Бяседа цягнулася доўга за поўнач, са спевамі і жартамі, дзе рэй вадзіў, апрача бязмежнага ва ўсім гаспадара, Анатоль Сяргеюк, спадчыннік трасцяніцкага настаўніцкага роду. Кожны ўдзельнік пікніку чарадзейнае месца адораны кнігай, напісанай кірыліцай, як статуты, поўны моцы для новых слоў.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Братнія разборкі

На канале ОРТ-1 расійскага тэлебачання вядуцца цяпер часта, доўгія і бойкія перадачы на актуальныя палітычныя тэмы пад агульнай назвай «Время покажет!». Такое сабе палітычнае шоу. Удзельнічае ў ім многа расійскіх палітыкаў, журналістаў, удзельнікаў-дыскутантаў і проста слухачоў. Запрашаюцца на іх таксама і ўкраінскія журналісты, і журналісты з іншых замежных краін. І яны, хаця і не масава, але прыходзяць і ўключаюцца ў дыскусію.




Вядуць гэтыя перадачы і надаюць ім напрамак і тут, канешне, расійскія палітыкі і журналісты. Вядуць востра, назойліва, агрэсіўна і, я б сказаў, мала культурна. Большасць удзельнікаў гэтага шоу проста ірвецца ўключыцца ў дыскусію і данесці слухачам сваю рацыю, а вось ахвотнікаў выслухаць чужую рацыю там мала. Зрэшты, калі хто з удзельнікаў дыскусіі гаворыць не «тое» і не «так», як хацелася б вядучым і аўдыторыі, яны адразу і часта груба, некультурна прабіваюць іх, не даючы нават дакончыць пачатай думкі. «Закрой свой рот!» — гэта адно з самых далікатных контраргументаў. Часценька паяўляецца таксама славечка «проститутки».

Слухаючы гэтыя перадачы выразна відаць, што расіяне маюць прэтэнзіі проста да ўсіх краін і народаў. Найменш, аднак, што дзіўна, прэтэнзій маюць яны да заходніх краін з былога капіталістычнага лагера. Значна больш у іх прэтэнзій да былых краін сацыялістычнага лагера, а яшчэ больш да былых савецкіх рэспублік, якім удалося стаць самастойнымі дзяржавамі. А ўжо да Украіны і ўкраінцаў маюць расіяне не толькі вялікія прэтэнзіі, але крыўду і злосць.

На заходнія краіны былога капіталістычнага лагера расіяне крыўдуюць у асноўным за тое, што заходнія краіны знаходзяцца на павадку ЗША і часта карыстаюцца двайнымі стандартамі. І менавіта да Расіі і расіян яны прымяняюць часта стандарты горшага сорту.

На краіны былога сацыялістычнага лагера крыўдуюць за тое, што яны сталі яшчэ больш праамерыканскімі і агрэсіўнанатаўскімі, чым заходнія краіны. Так і рвуцца яны сцягнуць на сваю тэрыторыю як найбольш натаўскіх структур і войск з усім сваім арсеналам і размясціць іх як найбліжэй расійскіх граніц. Моцна дражніць расіян таксама перапрацоўка нанава гісторыі з памяншэннем, вядома, ці паказаннем у горшым святле ў ёй ролі Расіі, асабліва ліквідацыя помнікаў расійскай баявой славы...

Не менш грэшнымі ва ўсіх пералічаных грахах лічаць расіяне і былыя савецкія рэспублікі. Да ўсяго гэтага ў некаторых з іх грамадзяне расійска-савецкага разліву ніяк не могуць набыць раўнапраўнага статусу з аўтахтонамі, што не можа не крыўдзіць іх...

Вось такая чорная няўдзячнасць плыве ад былых «друзей-товарищей однодержавников».

Але ад братняй русінска-праваслаўнай Украіны старэйшы брат ніяк не чакаў таго, што сталася. Наадварот, здавалася яму, што пасля ганебнай развалкі Савецкага Саюза, які так старанна і крывава ляпілі цэлых семдзесят гадоў, яшчэ не ўсё страчана. Цяпер — думалася яму — тры русінска-праваслаўныя народы змогуць самі збудаваць і адрадзіць вялікую і магутную Расію, канешне, і надалей пад разумным кіраўніцтвам старэйшага брата, які і надалей будзе лічыцца старэйшым братам з усімі выцякаючымі адсюль абавязкамі і прывілеямі. Так, маўляў, збудуем новую магутную і «процветающую» Святую Русь. („Процветающая" — вельмі моднае і любімае славечка ўсіх папярэдніх перастроек. На жаль, толькі яно адно і засталося ад усіх перастроек).

Вось як разумна і стройна было прыдумана старэйшым братам...

Пасля распаду Савецкага Саюза тры братнія русінскія праваслаўныя народы пачалі жыць раздзельна, але ў згодзе. Потым сярэдні брат збунтаваўся супраць старэйшага і парваў з ім усе не толькі суседска-сваяцкія кантакты, але і гандлёвыя. Пачалі ўзнікаць між імі і крывавыя канфлікты, якім канца і краю ўжо не відаць...

Вось так больш-менш маюцца справы паміж Расіяй і былымі савецкімі рэспублікамі, паміж Расіяй і былымі сацыялістычнымі і заходнімі капіталістычнымі краінамі. І маюцца яны — як бачым — ненайлепей. Падобныя адносіны ўжо не раз прыводзілі да братазабойчых войнаў. А вайна ў наш час гэта татальная катастрофа, не дай Божа...

Разумныя людзі ведаюць, што дапусціць да такой катастрофы ніяк нельга. А значыць трэба дагаварыцца з сабой, ісці на нямодныя цяпер кампрамісы. І гэтая тэлевізійная перадача, думаю, паўстала і інтэнсіўна вядзецца менавіта дзеля гэтага. А ўжо на ёй, на жаль, здараецца ўсялякае. У час гарачых спрэчак удзельнікі дыскусіі, хоць і з высокімі навуковымі званнямі, забываюцца часамі і нясуць такое, што аж гадка слухаць.

Назіраючы за ходам згаданых тэлевізійных перадач можна сказаць, што найбольш незгаворлівымі і сварлівымі ўдзельнікамі дыскусіі з'яўляюцца расіяне. Яны ніяк не могуць зразумець і выбачыць народам былых савецкіх рэспублік і былых краін сацыялістычнага лагера, што тыя так лёгка, нават з радасцю вырваліся з сацыялістычнага лагера і Варшаўскага дагавора і прытым вельмі няміла ўспамінаюць гэты час. Не рвуцца таксама супрацоўнічаць ужо з капіталістычнай Расіяй і не згаджаюцца з яе сучаснай палітыкай, бо лічаць яе агрэсіўнай. Усё гэта злуе расіян і яны, не маючы магчымасці даказаць сваю рацыю, пачынаюць грубіяніць...

Найбольш дастаецца братам-украінцам, значыць, сярэдняму брату, што ён пачаў жыць самастойна і незалежна ад старэйшага брата. Так паявілася трэшчына паміж брацкімі народамі, глыбокая трэшчын, якую залатаць старэйшы брат стараецца даказваючы сярэдняму, што той не мае рацыі. І лякае яго вынікамі такой неразумнай палітыкі.

Такім спосабам гэтыя справы дайшлі ўжо да таго, што іх і вырашыць немагчыма...

А чаму б, здаецца, на такой перадачы не ўстаць старэйшаму брату, пакланіцца аўдыторыі і тэлевізійнай публіцы, і ўрачыста заявіць:

«Мы, старэйшыя браты вашы, вельмі хацелі, абяцалі і стараліся нашу супольную краіну зрабіць «процветающей» , але, як бачыце, не атрымалася нам. Прабачце!».

Таму ўрачыста прапануем усю свецкую і духоўную ўладу перадаць вам, сярэднім братам. Пераймайце яе і перабудоўвайце вашу краіну па-вашаму, можа вам удасца зрабіць яе «процветающей», чаго ўсім нам сардэчна жадаем, бо народы нашы варты гэтага. З Богам!..

Напомнім, што калі і вам не ўдасца перастройка, хуценька перадайце падараваную вам уладу найлепшаму нашаму брату. Ён найспакайнейшы з усіх нас, разважлівы, з моцнымі дэмакратычнымі і рэлігійнымі традыцыямі. Яму мусіць удацца!».

І гэта была б нарэшце сапраўды дэмакратыя і Святая Русь.

Найменшы брат таксама паяўляецца на гэтых перадачах. І паяўляецца не ананімна, як бывала, а ва ўсёй сваёй красе і актыўнасці, чаго таксама раней не было. Калі ў час адной гарачай спрэчкі хтосьці са старэйшых братоў ляпнуў здуру, што малодшыя браты без дапамогі старэйшага проста не выжывуць, ён моцна пачаў аспрэчваць такі погляд, адным словам «pyskować» (гарлапаніць), старэйшаму брату. І я тады падумаў: «Жыве яшчэ Беларусь!»

**Васіль САКОЎСКІ**

## На міжнародным фестывалі

У малым горадзе Дагда ў Латвіі 8 ліпеня адбыўся Міжнародны фестываль беларускай песні і танца. У Дагдскай воласці жыве многа беларусаў, якія ўжо трэці раз ладзілі свята беларускай песні.

У мясцовым амфітэатры выступіла з песнямі і танцамі 36 аматарскіх калектываў з Латвіі, Беларусі, Літвы і Польшчы. Сярод іх два фальклорныя калектывы з Беласточчыны: «Нараўчанкі» з Нараўкі і «Хутар» з Гарадка.

Латышская публіка цёпла і радасна прымала нашы калектывы, не шкадуючы воплескаў.

Да Дагды далекавата — звыш 600 кіламетраў у адзін бок. Цэлую ноч трэба ехаць цераз Літву і амаль усю Латвію. Не кожны добра пераносіць далёкае падарожжа, але варта пабачыць кавалак свету і беларусаў у Прыбалтыцы.

Саюз беларусаў Латвіі знаходзіцца ў горадзе Даўгаўпілсе, распаложаным над вялікай ракой Даўгавай (Дзвіной). Папала мне ў рукі беларуская газета «Уздым», у якой мясцовыя беларусы пішуць аб сваіх справах і клопатах. Штодзень тутэйшыя беларусы пераважна гавораць па-руску.

У Дагдзе на кожным кроку чуецца руская мова, але назвы вуліц, назвы ўстаноў і ўсе шыльды напісаны на незразумелай для нас латышскай мове.

«Нараўчанкі», задаволеныя падарожжам, запрасілі сяброў з Латвіі наведаць Нараўку ў час гмінных дажынак.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Гродзіская дэмаграфія

Гродзіская гміна Сямятыцкага павета займае плошчу ў 20 331 гектар і гэта 14% паверхні павета. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 65% плошчы гміны ды лясы — 29%.

Пражывае тут 4500 чалавек (у 2000 годзе пражывала 4700). У самым Гродзіску жыве каля 600 асоб. Шчыльнасць насельніцтва — 21 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 95 жанчын. Ва ўзросце 85 і больш гадоў жанчын ёсць тры разы больш чымсці мужчын. Гміна налічвае 42 салэцтвы. Яна па-суседску з гмінамі Цехановец, Пэрлеева, Рудка, Браньск, Боцькі, Дзядковічы, Драгічын і Сямятычы.

Сёлета ў Гродзіскай гміне адзінаццаць пар свяжавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця. Былі гэта: Зіна і Антон Балейкі, Валянціна і Ян Чапюкі, Крыстына і Ян Яшчолты, Анна і Станіслаў Касінскія, Аліцыя і Аляксандр Літвінюкі, Вольга і Ян Міхноўскія, Данута і Люцыян Мачульскія, Рэгіна і Эдвард Пагажэльскія, Генрыка і Казімір Пёнткі, Стэфанія і Станіслаў Панятоўскія ды Марыя і Ян Смокі. Усе яны ад прэзідэнта РП атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё". **(яц)**

## Кветак і дрэў яшчэ больш

Летам Беласток выглядае прыгожа. У горадзе шмат дрэў і кветак. Як я памятаю, у другой палавіне мінулага стагоддзя дрэў і дэкаратыўных кустоў было куды больш. Многа іх ссеклі, калі будавалі новыя вуліцы, жылыя вялікія блокі, аўтастаянкі ды пашыралі існуючыя вуліцы. Кожны год сякуць, але і садзяць дрэвы. У мінулым годзе пасадзілі 200 дрэў, 4 тысячы былін і 5,5 тыс. кустоў.

Зараз на скрыжаваннях вуліц з кругавой развязкай, у парках і скверыках ды ў стоячых пасудзінах для вазонаў цвітуць браткі (многа жоўтых), стакроткі і іншыя кветкі, у тым ліку маруна (przytulia) і казялец (jaskier). У цэнтры горада, між іншым, на Рынку Касцюшкі ды па вуліцы Ліпавай, у вазонах завешаных на слупах вулічнага электраасвятлення цвітуць бягоніі, фуксіі, сурфініі, пеларгоніі.

Сёлета ў беластоцкім парку Плянты магістрат плануе пасадзіць 48 драбналістых ліп і 142 дрэўцы ціса. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

## БАРБАРА І УРШУЛЯ
# РАДЗІВІЛ

*(расквецім гісторыю Беларусі)*

Вялікае значэнне ў Беларусі мелі магнацкія роды, сярод якіх вылучаліся Радзівілы.

Барбара Радзівіл — каралева Польшчы і ўладарка Вялікага Княства Літоўскага. Яе таемная смерць абрасла шматлікімі легендамі і мастацкімі творамі. Да гэтай пары яе асоба не дае спакою літаратарам і гісторыкам.

Уршуля Радзівіл — пачынальніца беларускай драматургіі. У Нясвіжы, радавой сядзібе Радзівілаў, яна адкрыла ўласны тэатр. Сама напісала 16 п’ес: камедыі, трагедыі і оперныя лібрэта. Яна пісала па-італьянску, па-французску, панямецку, па-польску, а некаторыя героі ў яе п’есах размаўлялі па-беларуску. Арлекінада *Выкраданне Еўропы*, паводле твораў Уршулі Радзівіл, ідзе на сцэне Купалаўскага тэатра ў Мінску.




# Святы і выхадныя
## ў новым навучальным 2017/18 годзе

Напрыканцы канікул, калі трэба падумаць пра школьныя абавязкі, мы прыгадаем самыя прыемныя моманты ў новым навучальным 2017/18 годзе. У школу пойдзем 4 верасня, пазней чым у мінулым годзе. Таксама раней як летась выпадае заканчэнне школьнага года — 22 чэрвеня 2018 года. Як заўсёды — на працягу года шмат перапынкаў. Калядны перапынак пачынаецца 23 снежня і будзе доўжыцца ажно 9 дзён, паколькі 1 студзеня 2018 года адзначым у панядзелак. Для вучняў праваслаўнага веравызнання прадбачаны перапынак у навуцы між 6 і 8 студзеня. Два тыдні пазней у Падляшскім ваяводстве — зімовыя канікулы: 22.01. — 04. 02.

Не паспеем добра стаміцца, калі адпусцяць нас на чарговыя святы. Велікодны перапынак выпадае між 29.03. — 4. 04. 2018 года, праз тыдзень, 8 красавіка, Вялікдзень будуць святкаваць праваслаўныя.

Усе чакаем школьных экзаменаў, бо тады скарочаныя ўрокі або выхадныя.

Экзамены для вучняў III класаў гімназіі, адбудуцца ў днях:
— 18 красавіка — экзамен па гуманістычных прадметах,
— 19 красавіка — экзамен па матэматыцы і прыродзе,
— 20 красавіка — экзамен па замежнай, сучаснай мове.

Пісьмовы і вусныя экзамены на атэстат сталасці (матура) пачнуцца 4 мая і будуць доўжыцца да канца мая. Месяц май для ўсіх школьнікаў багаты на выхадныя. Ужо ў пачатку месяца чакаюць нас «маёвы святы» — 1 (аўторак), 3 (чацвер) і 31 мая (чацвер).

Тры тыдні пазней атрымаем пасведчанні і ўзнагароды за вынікі ў навуцы. І зноў чакаюць нас доўгія-доўгія канікулы!

**(Зорка)**


Падляшскі вянок. Фота Г.К

**Васіль Жуковіч**

## Слухай родную прыроду

У любую пару года,
у пагоду, непагоду,
слухай родную прыроду —
ты пачуеш галасы
таямнічае красы.
З лесам, з нівай залатою
размаўляе ветравей,
сонца-сонейка — з зямлёй,
з цішынёй — салавей,
з небам — рэкі і азёры,
хваля — з ніцаю вярбой...
як і што яны гавораць,
слухай, сябра любы мой.

# УВАГА КОНКУРС!
## № 36-17

**Не канапа,**
**але мае спінку.**
**Не шавец,**
**але прыдбаў шчацінку.**
**п.....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 10 верасня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 33-17: сланечнік. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграў Дам’ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Аня Бяляўская: чарадзейка з гітарай!

Вялікая рэч захапіць аднагодкаў! Звычайна ў ролі музычных куміраў бачым сусветныя зоркі, якіх, дзякуючы СМІ, ведае ўвесь свет. Тым часам на Падляшшы існуе нешта накшталт падвойнай сусветнасці. Гэта па прычыне сучаснай беларускай музыкі. Яе любім слухаць не толькі за мелодыі, а найперш за важны змест і набрынялыя ідэі, якія кожны дзень носім на сэрцы.

— Пачну з песень Тодара, — заявіла Аня Бяляўская. — Калі хто ведае, няхай дапамагае...

Канцэрт Ані Бяляўскай быў свайго роду цудам. Трэба такога, каб пры адным вогнішчы, сустрэліся найбольшыя фанаты «Тодара» Вайцюшкевіча. Трэба дадаць, што ўжо чарговы раз наведаў нас гарадоцкі гурт «Хутар». Янка Карповіч, лідар гурта, як ніхто на Падляшшы, ведае песні Тодара. А ўжо напэўна ведае ўсе патрыятычныя песні, на словы Караткевіча, Барадуліна, Някляева. Гэтыя песні Янка спявае на афіцыйных мерапрыемствах, сямейных імпрэзах, ля вогнішчаў і пры застоллях. І ўсе шчаслівыя, захопленыя, падмацаваныя!

Аня Бяляўская, хоць яшчэ ліцэістка, разумее, што песня павінна пра нешта гаварыць, кранаць душу і мацаваць настрой у кампаніі. Таму ў яе рэпертуары не можа бракаваць Зміцера Вайцюшкевіча. Спявае на розных мовах, аднак яе беларуская песня гэта асобны свет. Аня захоплена беларускім космасам! Прытым яна не робіць з гэтага паказухі. Каб захапіць людзей, яна не мусіць нават спяваць. Калі бярэ слова і прамаўляе, усе хочуць палюбавацца яе прыгожай беларушчынай. У гэтым, менавіта, праяўляецца яе любоў да роднага і годны, сучасны патрыятызм — рабіць справу ў духу талерантнасці, на прыстойным узроўні!

Іншае яе захапленне — гэта ўдзельніцтва ў тэатры, які вядзе Іаанна Троц. Аня выступала ў «Чарнобыльскай малітве» паводле Святланы Алексіевіч ды ў шэкспіраўскай п'есе «Рамэа і Джульета». Музычную адукацыю таксама атрымлівае пад кірункам таленавітых асоб. Аня спявае ў музычнай студыі Марты Грэдаль, якая дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры, а таксама бярэ лекцыі ў Пятра Карпюка, маладога музыканта з Нараўкі. Такім чынам развівае вакальныя здольнасці і майстэрства ігры на гітары. Якраз з такой прапановай яна з'явілася на Сустрэчы «Зоркі».

Які гэта быў класны, незабыўны канцэрт! Яшчэ больш захапіла тое, што большасць нашых сяброў ведала песні Вайцюшкевіча. Шмат песень, асабліва народных, заспявалі супольна, на галасы ды пад дзве гітары і бубны. Гэта быў незабыўны музычны вечар сярод пушчанскай прыроды і разбуджанага ветру. Яшчэ сёння ў памяці ажывае тое вытанчанае, зладжанае, але і бадзёрае гучанне. Проста, як з нейкага іншага, лепшага для музыкі часу...

У доказ прызнання самавіты Янка Карповіч нізка пакланіўся нашай сяброўцы і заявіў:

— Чакаю Твайго наступнага канцэрта! *(ЗОРКА)*


Фота Ганны Кандрацюк

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Рэпка і морква

Рэпка спытала ў морквы:

— Чаму так глыбока ўваходзіш у зямлю, хаваешся?

А морква ёй кажа:

— Якая з цябе дурніца! Хто гэта бачыў, каб самая першая, самая белая прыгажуня сама сябе напаказ выстаўляла?

А рэпка на гэта:

— Магчыма, гэта дрэнна, але ці падыходзіць такой красуні як ты страхоцце ды сорам?!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 36-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32-17:**

Ціша, скупля, карона, ржа, калыханка, шанец, Лі, на, Ян, шклянка. Каша, шпала, рынак, мох, нацыя, кран, крок, пара, ля, арабіна.

Узнагароду, беларускія кніжкі, выйграў **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Ślina | Kino | | Ranga | | Siano | | Soż / Ballada | |
| Mig / Iks | | | | | | Osobistość / Kwas | | | | | |
| | | Przecinek / Link | | | | | Jadło / Ina | | | | Bierz / Igor |
| Wół | Piwo / Pingwin | | | | | | | | Chińskie imię / Łeb | | |
| Wino | | | | | Analogia | | | | | | |
| | | | | Osa | | | | Oda | | | |
| Język | | | Ar | | | | | Bar | | | |

**Жыхары Гайнаўскага і Бельскага паветаў святкаваць Праабражэнне Гасподняе, званае ў народзе Спасам, ахвотна прыязджаюць у царкву велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. На Дзмітрыеўскую святую горку, распаложаную каля вёскі Сакі, на аўтамабілях прыбываюць таксама паломнікі з Беластока, Варшавы і іншых аддаленых мясцовасцей, каб тут памаліцца ў цішыні і па хадайніцтве велікамучаніка Дзмітрыя атрымаць Божую дапамогу.**

# Маліліся ў Саках і Залешанах



У гэтым годзе 19 жніўня на Дзмітрыеўскай горцы сабралася вельмі многа вернікаў. Частка з іх малілася таксама ў апошнюю суботу ліпеня ў Манаскім жаночым доме ў Залешанах. Мужчынскі манастыр велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках шчыльна супрацоўнічае з залешанскім манаскім домам, якім упраўляе манахіня Кацярына (Нічыпарук). Яна адначасна з'яўляецца дырыжорам хору ў Дзмітрыеўскай царкве ў Саках, а сакоўскія іераманахі моляцца ў залешанскай царкве велікамучаніцы Кацярыны падчас багаслужбаў, чытання акафістаў і служэння малебнаў.

Едучы на святкаванне ў Сакі трэба было мне пакінуць аўтамабіль далёка ад царквы і далей дабірацца пяшком, бо дарогі да яе з абодвух бакоў былі застаўлены машынамі. Вадзіцелі дзвюх пажарных машын, якія ехалі ў суседнія Тапаркі тушыць пажар, не павярнулі ў Саках у напрамку Залешан і таму прыйшлося ім паволі прабівацца паміж машынамі паломнікаў, якіх маліліся на горцы. Пажарнікам удалося патушыць сухія траву і зелле, якія гарэлі на загарадзі Тапаркоў, калі большасць вяскоўцаў малілася на Дзмітрыеўскай горцы.

У дзень Праабражэння Гасподняга ў Саках людзі сабраліся ў царкве, вакол яе і на могільніку каля храма. Збоку ад шыкарных намагільных помнікаў стаяць таксама старыя высокія драўляныя крыжы. Растуць там высокія дрэвы, якія з розных бакоў акружаюць царкву і хіляцца ў яе напрамку. У сонечнае і вельмі цёплае надвор'е вернікі моляцца, часта хаваючыся ад сонца ў цяні гэтых дрэў. Дэкан Кляшчэлеўскай акругі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі ў канцы святкавання заклікаў вернікаў дбаць пра навакольнае асяроддзе, не спажываць забруджанае і генетычна мадыфікаванае харчаванне, паколькі гэта спрычыняецца да розных хвароб. Святар раіў старацца пазбягаць грахоўных прывычак і, апрача лячэння хвароб з дапамогай лекараў, прасіць Божай дапамогі ў малітвах. Настаяцель Дзмітрыеўскага манастыра архімандрыт Цімафей (Саўчук) заклікаў перамяняцца ўнутрана. Звярнуў ён увагу, што вельмі многа сабраных у час святкавання прыступіла да Святога Прычасця, дзякуючы якому людзі таксама пераменяюцца.

Асабліва да святкавання рыхтаваліся мясцовыя прыхаджане з Сакоў і Тапаркоў, якія ўвесь год жывуць справамі сваёй парафіі. У мінулым годзе закончыўся тут вялікі і грунтоўны рамонт Дзмітрыеўскай царквы, быў усталяваны ў ёй новы прыгожы іканастас. Летась адзначалася таксама пятнаццацігоддзе дзейнасці Манастыра велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, а сёлета выпадае дзесяцігоддзе дзейнасці Манаскага жаночага дома ў Залешанах. У 2001 годзе ў школьны будынак у Саках, які быў перададзены для патрэб манаскага жыцця, пасяліліся іераманахі Варсанофій (Дарашкевіч) і Пётр (Якімюк), зараз Пафнуцій, якія з нуля будавалі там манаскае жыццё. Архімандрыт Варсанофій кіраваў Дзмітрыеўскім манастыром да 2009 года. З гэтага часу манастыр узначальвае архімандрыт Цімафей. У былой школе ў Саках, перабробленай на манастыр, пастаянна жыве і моліцца 7 чалавек, сярод якіх ёсць трох іераманахаў. Аднак усе важнейшыя святкаванні адбываюцца ў царкве велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага каля Сакоў, якая славіцца цудатворнай іконай велікамучаніка Дзмітрыя. Вернікі на Спаса ў царкве пакланяліся перш за ўсё іконам Праабражэння Гасподняга і Дзмітрыя. Ахвяраванні ад праваслаўных вернікаў з Польшчы і замежжа ды спонсараў паслужылі да выканання іканастаса ў Дзмітрыеўскую царкву і напісання для яго ікон. Грунтоўны рамонт царквы ў Саках праводзіўся з фінансавай падтрымкай Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны ды Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

— Новы іканастас для Дзмітрыеўскай царквы выканаьы ў Салуні, у Грэцыі, а іконы да яго напісаў айцец Кірыл з Келлі святога Пракопа, якая падначалена Ватапедскаму манастыру на Афоне. Мы стараемся там пабываць штогод і вучымся ад тамашніх манахаў духоўнасці, — сказаў архімандрыт Цімафей.

Святкаванне Праабражэння Гасподняга ў Саках закончылася шэсцем з малітвамі вакол царквы, чытаннем фрагментаў Евангелля і асвячэннем прынесеных вернікамі фруктаў.

* * *

29 ліпеня, у апошнюю суботу месяца, у Залешаны прыехала многа людзей, каб другі раз святкаваць у гонар Залешанскай іконы Божай Маці. Малітвы падчас літургіі ў Манаскім жаночым доме і падчас шэсця з іконай да крыжа пасярэдзіне вёскі Залешаны ўзначаліў епіскап Супрасльскі Грыгорый. Каля крыжа сабраныя маліліся за душы загінуўшых у 1946 годзе жыхароў вёскі.

— Мужчына, які захварэў і прыехаў да нас памаліцца і прасіць у Бога выздараўлення, падчас літургіі ўбачыў Божую Маці на іконе ў акружэнні сямі анёлаў. Пасля ў сне некалькі разоў пачуў ён жаночы голас, які прасіў яго напісаць ікону пабачанай у нашай царкве Божай Маці. Тады ён таксама выслухаў трапарыён для Багародзіцы. Гэты чалавек стаў здаровым і была выкананая ім просьба, — распавяла манахіня Кацярына (раней матушка Елізавета). Яна з 2007 года ўзначальвае Жаночы манаскі дома велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах і зараз жыве тут разам з паслушніцай.

Манаскі дом быў заснаваны на панадворку, дзе раней жыла і працавала сям'я. Спачатку паломнікі маліліся ў часоўні, якая была абсталявана ў жылым доме, перарobленым на манаскі дом. Пазней збоку была ўзведзена драўляная царква ў гонар велікамучаніцы Кацярыны, а гаспадарчы будынак быў разбудаваны — знаходзяцца ў ім вялікая сталовая і начлежныя месцы.

Здарэнне з мужчынам у царкве велікамучаніцы Кацярыны адбылося ў ліпені 2013 года і таму на апошнюю суботу гэтага месяца было назначана святкаванне ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці. Ікона звычайна прымацавана да сцяны царквы і здымаецца з гэтага месца падчас святкавання ў Яе гонар. На вялікіх памераў іконе Божая Маці стаіць акружана сямю анёламі, а знізу іконы напісаны пачуты мужчынам у сне трапарыён: «Радуйся, Благодатная Богородіцэ Дево, весь Залешаны от унічтожэнія вражыя сохраніла есі, і нас ныне просяшчых Твоея помошчы і заступленія от дявольскіх козней зашчыті, моляшчы Сына Твоего і Бога нашэго, поміловаті душы наша». На іконе злева ад трапарыёна знаходзіцца выява дома, які гарыць, а справа — трое малых дзетак у агні. Усё гэта ўбачыў у царкве згаданы чалавек. Манахіня Кацярына лічыць, што дом і дзеткі ў агні тычацца трагічных падзей, якія 29 студзеня 1946 года адбыліся ў Залешанах. Раней манахіня Кацярына ўспамінала вернікам, як жаўнеры атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім «Буры», спалілі вёску Залешаны, дзе загінула 16 чалавек, у тым ліку 5 дзетак. Паўтарала манахіня Кацярына, што дзякуючы хадайніцтву гэтых мучанікаў у Бога ў Залешанах паўстаў і працягвае дзейнасць манаскі дом. Епіскап Супрасльскі Грыгорый падчас залешанскага святкавання звярнуўся да сабраных паломнікаў з заклікам прымаць жыццёвыя выпрабаванні з пакорай і верай у Божую дапамогу ў далейшым жыцці. Жыхары Залешан вераць, што загінуўшыя ў 1946 годзе жыхары іх вёскі сталі мучанікамі, якія дапамагаюць цяперашнім жыхарам сяла.



**Святкаванні ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці (на другім плане відаць галоўны манаскі жылы будынак, у якім абсталявана часоўня)**

* * *

Святкаванні на Дзмітрыеўскай горцы ў Саках і ў Манаскім жаночым доме ў Залешанах закончыліся пачастункам для ўсіх сабраных. Спажывалі яны суп з хлебам і напітак з пірагом, якія сталі ўжо тут традыцыяй і нават суп варыцца ў той жа самай мабільнай кухні на колах. Аднак у гэтым годзе пачастункам на Спаса не пакарысталіся многія жыхары Тапаркоў. Яны, убачыўшы пажарныя машыны, сталі неадкладна дабірацца ў сваё сяло, каб там разабрацца, што здарылася з іх домам і гаспадаркай. Аказалася, што на загарадзі Тапаркоў гарэлі сухія трава і зелле. Пажарнікі паспяхова патушылі агонь.

— У гісторыі Тапаркоў было такое, што калі нашы жыхары пайшлі ў царкву, то дзеткі распалілі дома вогнішча. Ад яго загарэлася забудова і згарэла палова нашай вёскі, але гэта не было пры нашай памяці, — заявіла жанчына з Тапаркоў.

Падчас святочнага гасцявання ў гэтай вёсцы пажар быў дзяжурнай тэмай размоў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Свята хлеба



**У Цеханоўцы ў жніўні традыцыйна ладзіцца Свята хлеба; сёлета ў нядзелю 13 жніўня. Хлеб тут мае агульнае значэнне асноўнага Божага дару чалавеку. І ладзіцца ў тую пару, калі менавіта тых дароў найбольш падае зямелька-карміцелька.**

Падаўся я ў Цехановец спачатку на поездзе, бо ж у рэшце рэшт цягнікі сталі ездзіць з Беластока ў Бельск па новых рэйках. Поезд едзе ў прынцыпе гладка, далікатна час ад часу калыша — усё ж такі гэта не тое, што *пэндаліна* на цэнтральнай чыгуначнай магістралі, дзе амаль зусім не адчуваецца руху, ды той рух такі, што цяжка ўспець чытаць назвы мігаючых за вокнамі станцый. Ну, але ж наша магістраль не цэнтральная, толькі перыферыйная, можна сказаць што крэсавая. Але добра і гэта.

На прыпынку Беласток-Стадыён пасля дажджу на тратуары, што вядзе на перон, стаяла больш-менш такая лужына, як у яме з вадой для стаераў на тры кіламетры з перашкодамі на акурат праходзіўшым у той час лёгкаатлетычным чэмпіянаце свету ў Лондане. І, каб суха дастацца на перон, трэба было мець сякую-такую спартыўную падрыхтоўку. Дарэчы, пероны на прыпынках быццам крыху абноўлены, але іх бардзюры старыя, яны надалей нізкія; толькі, здаецца, у Страблі перон падняты на прыстойную вышыню. Можа каб пасажыры не забывалі, што тут усё ж Польшча-Б...

З Бельска далей падарожжа аўтобусам. У Кальніцы прыгнятаючая сцэна: на фоне маштабнай гусінай фермы, дзе за агароджай згрувашчаны соткі ці нават тысячы гусей, па абшырнай узрыхленай пожні шпацыруе адзінокі бусел. Калі б чалавек, у ходзе свайго сацыяльнага разгону, прыручыў да хатняга дабытку заміж гусей буслоў, відовішча, пэўна, выглядала б вельмі падобна, толькі з заменай роляў...

У Цеханоўцы да афіцыйнага пачатку хлебнага свята шмат часу, таму заглядаю ў тамашнюю царкву. Вернікаў шмат, каля паўсоткі, галоўным чынам гасцявых. У царкве два размеры свечак — малыя і вялікія. Большасць прысутных бярэ меншыя свечкі, лічаныя асобы — большыя. І тыя большыя, нагрэтыя ад споду меншымі, мякнуць і гнуцца, і падаюць, быццам над імі вяршыўся прысуд Нагорнай пропаведзі...

Цеханавецкае Свята хлеба гэта маштабнае мерапрыемства. Усю тэрыторыю тамашняга Музея сельскай гаспадаркі шчыльна займаюць вытворцы ўсялякіх вырабаў, не толькі харчовых. Пляц перад адміністрацыйным будынкам Музея вялікім шчыльным колам займаюць вытворцы хлеба нашага надзённага. Многа таксама і іншых кулінарных прапаноў, не толькі выпяканых з мукі, але і поўна мясных вырабаў, поўна прапаноў з агародніны, поўна мёду, розных напояў, размаітых закусак: „**Trzeba pomyślić o grochu, o kaszy, lecz chleb fundament i wieprzowe ciało — miej go niemało...**” пісаў ужо ў XVI стагоддзі Фабіян Кляновіч. Шыльды паведамляюць, што прапануюцца літоўскія, крэсавыя, старапольскія, бабуліны і ўсялякія іншыя традыцыйныя вырабы вясковай кулінарыі. Бо ж Свята хлеба задумана як прамоцыя свайго традыцыі, не толькі кулінарнай, але і культурнай, землеапрацоўчай, бытавой. Усе вулачкі музейнай тэрыторыі абстаўлены выстаўцамі з шырокага наваколля, а па тых вулачках няспынны рух наведвальнікаў, як у прыродным — макракасмічным ці мікракасмічным кругавароце. Ёсць некалькі эстрадных месцаў, адкуль нясуцца бяседныя і дыскапольныя песні, песні „варшаўскай вуліцы”, пад плэйбек эквадорскія індзейцы працавіта іграюць папулярныя андыйскія мелодыі кшталту *El condor pasa*.

Ёсць і беларуская прысутнасць. Маладыя жанчыны з Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту спяваюць беларускія жніўныя песні, вучаць ахвотных лялечнаму рукадзеллю. Прэзентуюцца яны перад „беларускай хатай”, якая, хаця знаходзіцца на „крэсах” музейнай тэрыторыі, прымае шмат наведвальнікаў.

Мінскі музей у той жа час таксама ў сябе ладзіць жніўнае мерапрыемства — Свята ўраджаю „Жыцень”. Вікіпедыя: „Жыцень — беларускі міфалагічны персанаж, які жыве ў палях і спрыяе росту і выспяванню збажыны. Лічылася, што ён нібыта забяспечваў ураджай жыта — *даваў жыта*, збіраў каласы на жытняй ніве нядбайнай гаспадыні і пераносіў іх на поле руплівай жнеі. Яго паважалі таксама як духа багацця і дабрабыту. Пазней народныя вераванні пра Жыценя зліліся з уяўленнем пра бога як вытворцу ўраджаю”. Але там жа ёсць і агаворка: „Вобраз Жыценя прапанаваны (і, напэўна, выдуманы) фальклорыстам Паўлам Шпілеўскім як старажытнабеларускі бог урадлівасці і восені. Мяркуецца, што як бог ніколі не існаваў у беларускай міфалогіі. Пад імем Жыцень Шпілеўскі, сам таго не ведаючы, мог апісаць мясцовыя ўяўленні пра даволі распаўсюджанага ў вераваннях усходніх славян духа — палевіка”. Але ж іншых багоў таксама выдумалі народныя фальклорныя творцы, толькі тыя вынаходцы засталіся ананімнымі...

У іх ліку Ярыла — самы моцны бог, што гаспадарыць на Мацеры-зямлі, што некалі спыніў качавое жыццё людзей і пераканаў іх не палягацца на сілы прыроды, а вырошчваць самім сродкі жыцця. Навучыўшы людзей апрацоўваць зямлю, ён прынёс чалавецтву земляробства. Уся культура Беларусі вядзе свае карані ад земляробства, і ўсе нашы звычаі і традыцыі заснаваны на ім. Усе святы былі знітаваныя з сезонным календаром, выявамі земляробчай працы і прыроды...

У іх ліку свята хлеба, хлеба, які стаў сімвалам усяго харчавання, ва ўсім свеце. Выступаючы ў характары ганаровага госця віцэ-міністр унутраных спраў і адміністрацыі Яраслаў Зялінскі працытаваў фрагмент верша Цыпрыяна Норвіда: ***Do kraju tego, gdzie kruszynę chleba / Podnoszą z ziemi przez uszanowanie / Dla darów Nieba... / Tęskno mi, Panie...***

Ларыса Геніюш усхваляла падобна: *І смакаваў пахучы, чорны, жытні / З гарачай печы родны каравай. / Хвалілі госьці хлеб і старажытны, / Багаты хлебам, беларускі край.*

Смак і пах хлеба — вартасці суб'ектыўныя і настальгічныя. Прамаўляючы на свяце віцэ-міністр сельскай гаспадаркі Яцэк Багуцкі падкрэсліваў непаўторнасць і высокую вартасць польскіх харчоў. Гэтак жа, мяркую, сказаў бы і міністр кожнай іншай краіны, бо той смак і пах, як і ўся культура, зароджваюцца з маленства і становяцца эталонам на ўсё далейшае жыццё.

Хлеб можна назваць пупавінай, якая звязвае чалавека і з роднай зямлёй, і з зямлёй-карміцелькай. Чылійскі паэт Пабла Нэруда адводзіў хлебу жыццядайную ролю: *З мукою, вадою і агнём расцеш густы і лёгкі, у пасудзе і свабодна акруглены, як мацярынскі жывот, як апладненая навесну зямля. Хлеб, які ты лёгкі і набрынялы, у пякарні буйнеюць твае лініі; і неўзабаве хваля жыцця, спалучэнне парасткаў і агню ўзніме, узніме як жываты, вусны, грудзі, узгоркі ці жывое. Цяплее, налівае цябе поўняй напор пладавітасці і тады застывае залацістых колер. Цяпер, беззаганны, становішся чалавечай патэнцыяй, паўтаральным цудам, прагай жыцця...*

Хлеб, калі яго асацыюецца з цудам, атрымлівае пэўную сакральнасць. Таму ў беларускай традыцыі склаўся своеасаблівы рытуал, такі савуар-віўр да хлеба. Адам Багдановіч: *Хлеб для белоруса — святыня. Его приготовление — истое священнодействие (я говорю о своем времени). Начать с того, что его приготовлять может только женщина „чистая”, т.е. не во время „месячных” и не спавшая накануне с мужем. Иначе это значило бы хлеб поганить и оскорблять. Руки обязательно мыть до локтей. Это ритуальное омовение...*

З сеціва: Нашы продкі шанавалі нават хлебную крошку, якую ні ў якім разе нельга было кінуць на падлогу, растаптаць нагамі. Хлеб забаранялася крышыць, толькі кроіць нажом. Рабіў гэта звычайна гаспадар: хлеб прытуляў рабром да левай часткі грудзей — там, дзе сэрца. Абавязкова выпуклую частку да правай рукі. У правай руцэ трымаў нож, гэтай жа рукой хрысціў хлеб і нажом кроіў яго ў кірунку да сябе. Спярша адразаў акраец, потым рэзаў на лусты, скібкі. З даўніх часоў прыгатаванне хлеба было прывілеяй жанчын. А само ўменне пячы хлеб лічылася прыкметай гатоўнасці дзяўчыны да сямейнага жыцця. Адмаўляючы сватам, бацькі нявесты казалі, што іх дачка яшчэ маладая, *не можа ні вады прынесці, ні хлеба замясіць*. Гаспадыня, якая пякла хлеб, карысталася павагай сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў. Дзежка, у якой мясілі цеста, стаяла звычайна на самым пачэсным месцы ў хаце — на покуці, на скрыжаванні лаў. Новую, толькі што зробленую дзежку неабходна было *задобрыць*, дзеля чаго яе ставілі на суткі са старой на адну падсцілку і пад адной накрыўкай. Гэты хлебны посуд нельга было пазычаць і пераносіць у іншую хату, бо, згодна з павер'ем, дзежка магла пакрыўдзіцца і пачаць даваць дрэнны хлеб. З вечара прасеяную праз сіта жытнюю муку сыпалі ў хлебную дзежку. Дадавалі ваду, размешвалі, атрымліваючы не вельмі густое цеста. Каб цеста ўкісла і добра падышло, дзежку накрывалі вечкам (а зверху яшчэ якой адзежынай) і ставілі на ноч у цёплае месца. Квасілі цеста з дапамогай рошчыны — невялікага кавалачка цеста, пакінутага на дне дзежкі ад папярэдняй выпечкі. Раніцай у цеста сыпалі муку, дадавалі соль і кулакамі мясілі. Самае цяжкае было замешванне вялікай колькасці цеста. На гэты конт нават існуе такі жарт: нявестка пытае свякроўку: — *Як даведацца, што цеста на хлеб вымесіла добра? — А от як срака змакрэла, дык і добра вымесіла!* Каб атрымаўся добры хлеб печ добра напальвалі бярозавымі дровамі, старанна вымяталі. Далей бралі кавалак цеста, прыгладжвалі яго рукамі, прыдаючы форму. На першай булцы рукой рабілі крыжык. Калі цеста садзілі ў печ, у гэты момант ніхто з хатніх не павінен быў сядзець на печы — каб хлеб атрымаўся добры. Калі хлеб ужо ў печы і заслонка зачыненая — нікога нельга было пускаць у хату. І нават свае не павінны былі без патрэбы хадзіць па хаце, сварыцца, шумець, гучна размаўляць. Калі хлеб даставалі з печы, яго клалі на лаву ці стол, высланы белымі ручнікамі. Калі хлеб выпякаўся, сачылі, каб ён удаўся. Бо калі атрымаецца з трэшчынай — значыць, жыццё дасць трэшчыну. Калі раскалоўся напалам — вельмі благая прыкмета, нехта з гаспадароў пакіне хату, памрэ. На стол яго нельга класці сподам дагары. Рэч у тым, што ў народнай культуры перавернутасць ёсць прыкметай *таго свету*. Таму і хлеб для жывых мусіць ляжаць на стале гэтак жа, як і ў печы падчас выпякання. Хлеб заўсёды шанавалі — гэта сімвал нашага дабрабыту, гасціннасці. Адмовіцца ад хлеба з соллю лічылася надзвычай непрыстойным. Сам факт такога пачастунку з'яўляўся знакам асаблівага даверу. Лічылася, што калі накарміць хлебам з соллю ворага, то ён стане сябрам. Выраз *ты забыў мой хлеб ды соль* лічыўся самым вялікім папрокам няўдзячнаму чалавеку. Хлеб увасабляе пажаданне дабрабыту і багацця, а соль выступае як абярэг, які абараняе ад варожых сіл і злога ўплыву. Сам выраз *хлеб ды соль* мае адганяць злых духаў. *Хлеб-соль* кажуць, уваходзячы ў хату, жадаючы гаспадарам дабрабыту.

З „Новай зямлі” Якуба Коласа: *Тым часам маці тарапліва / Закон дзядоў сваіх спаўняе: / Кладзе кусочак хлеба з соллю / Пад красны кут у завугольле, / Апошні раз глядзіць на хату...*

Пара глянуць развітальны раз і на хлебна-святочны Цехановец. У ходзе паказаў традыцыйных сельскіх работ адбыўся парад сельскагаспадарчых машын, у іх ліку дваццаці двух трактароў з агульнага ліку сарака чатырох ды пяці з дзесяці лакамабіляў; дырэктар Музея Дарота Лапяк паінфармавала, што цеханавецкая калекцыя гэтых машын найбольшая ў Польшчы. Каля трыццаці пякарняў прапанавалі свае выпечкі, звыш трохсот рукадзельнікаў прапанавалі свае вырабы. А колькі было наведвальнікаў — цяжка ацаніць; іхнія машыны занялі бадай усе тратуары правабярэжнай часткі горада. У тым ліку і пляц аўтобуснага вакзала, дзе цераз ягоную прарастаючую траўкай брусчатку зямля-карміцелька нястомна прыгадвае сваю пладавітую напорыстасць...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (18)

Паколькі ў Палічнай не было святліцы, дык кінасеансы дэманстравалі мы ў школьным драўляным будынку. Зала невялічкая, усяго на сорак гледачоў. А сяло вялікае ды і аматараў глядзець кіно было шмат. На ранішніках для вучняў трэба было арганізаваць дадатковыя сеансы. Амбіцыяй палічанскіх пажарнікаў было чым хутчэй завяршыць будову пажарнага дэпо са святліцай. Затым на заклік траістага саюза (Ян Пятрочук, Сцяпан Назарук, Мікалай Дудар) „усе рукі на палубе”, станоўча адгукнулася і ўключылася ў вір падзей уся мясцовая супольнасць: пажарнікі, сяляне і настаўнікі. Вялікую дапамогу аказала Павятовая пажарная камендатура ў Гайнаўцы з камендантам Альфрэдам Пэлчыньскім і Грамадская рада нарадовая, якую ўзначальвалі старшыня Данілюк і сакратар Ляўчук.



Даўнейшы пісьманосец Валодзька Назарук сын Івана з жонкаю са слязінкай у вачах успамінаюць сваю маладосць

Пакуль я пачаў заязджаць у Палічну з кінаперасоўкай, у сяле ўжо былі ў мяне знаёмыя. Жэнька Якімава (у дзявоцтве Саўчук), хрышчоная дачка маёй матулі, выйшла замуж за Аляксея Вілюка. Часта мы ў Кузаве сустракаліся пры нагодзе парафіяльных фэстаў (у гонар св. Тэклі ці св. велікамучаніцы Варвары). Калі стаў я працаваць кіношнікам, была гэта ў Палічнай мая першая прыстань. У Вілюкоў было двое дзяцей — Вера і Валодзя. Запрашаў я іх у кіно. Шафёр Валодзя Скепка і кінамеханік Алік Чарнянін сталаваліся ў той час у Міхала Раманюка. А Міхалаў швагер, жончын брат, значыцца, Ян Найбук выходзіў з Войнаўкі і жаніўся ў Кузаве са Сцепанідай Раманчук. Аб тым я даведаўся ў лістападзе 1962 года, калі зайшлі мы да Раманюкоў на абед.

З першага дня наладзіў я з гаспадарамі задушэўныя кантакты. Ды не толькі з сужонствам Раманюкоў. Да гэтай кампаніі далучыліся самадзейнікі на чале з Янам Пятрочукам, затым Ян Назарук, у якога змяшчалася пошта. Дзядзька Іван фурай забіраў з чыгуначнага прыпынку ў Палічнай паштовыя пасылкі і адвозіў з пошты пасылкі на чыгунку. Такі паштовы кур’ер курсіраваў на лініі Чаромха — Гайнаўка. Хутка падружыў я з сынамі Назарука Валодзькам і Лёнікам. Яны лічыліся маімі сталымі гледачамі. У Палічнай было шмат моладзі. Вёска славілася сельскагаспадарчай традыцыяй. У шасцідзясятых гадах папулярным рамяством было выплятанне каробак з саломы. Скупкай вырабаў з саломы займаўся гайнаўскі кааператыў „Лес”. Тавар ад вытворцаў забіраў на грузавую машыну спадар Мікуліч. Мой кузаўскі сусед Уладзімір Клімюк таксама выплятаў каробкі.

У Палічнай кавалерка арганізавала сваю дружыну. Найчасцей збіраліся ў хаце Ігнацюкоў. Памятаю сустрэчу перад Калядамі. Кожны працаваў на свой рахунак, але абед быў супольны. Перад Раждаством Хрыстовым стравы, разумеецца, былі посныя: печаная ў печцы бульба з лупінай, капуста з алеем і ў прыкуску чарка віна „палкай пісанага” (самага таннага, па 11 злотых буталь). На такі пачастунак і мяне запрасілі. Ад яго застаўся прыемны ўспамін.

Няма ўжо ў жывых многіх палічанскіх калег з даўнейшай „пачкі”: Віктара Ігнацюка, Смолюка (імя не запамяталася), Янкі Барана, Лёніка Назарука. Засталіся Мікалай Вілюк, браты Федзя і Пятро Раманюкі, Пецька Пятрочук, сын Яна Пятрочука — начальніка пажарнікаў. З гэтым у мяне былі своеасаблівыя кантакты. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

press club belarus

ГАЛОЎНАЕ Ў ПРЭС-КЛУБЕ

«Лічбавая камунікацыя», «Культурныя стратэгіі» і «Стратэгіі фандрайзінга»: новыя курсы ад праграмы ЕС «Культура і Крэатыўнасць»

ПРЭС-КЛУБ ДЛЯ ВАС!

## http://press-club.by

Са з’яўленнем новых медыяў для журналістаў ва ўсім свеце адкрыліся неверагодныя магчымасці атрымання і распаўсюду інфармацыі. Цяпер даволі лёгка нешта апублікаваць, але гэта не значыць, што публікацыя прыцягне належную ўвагу чытача ці гледача. Сацыяльныя сеткі, уласныя сайты, блогі, нягледзячы на дасяжнасць кожнаму, дагэтуль не сталі ў ровень з парталамі СМІ, і наўрад ці стануць. Прычына ў падыходах. Калі мноства размешчаных пастоў у сацыяльнай сетцы не прыцягнуць увагу карыстальнікаў інтэрнэту, то блогеру асаблівага гора ад гэтага не будзе. Калі ж мноства артыкулаў на сайце выдання раз за разам нецікавыя для чытача, то значыць гэтаму СМІ наканавана хутка знікнуць. Таму вельмі важна для сучасных журналістаў ва ўсім свеце ўмець цікава данесці ўласную інфармацыю для сваёй мэтавай аўдыторыі.

У Беларусі, дзе праца незалежных журналістаў значна ўскладняецца ўладамі, якія незацікаўлены ў распаўсюдзе праўдзівай інфармацыі, таксама як і ў іншых краінах існуе так званы „Прэс-клуб”, дзе пры жаданні можна набыць некаторыя веды пра сучасныя медыя-асаблівасці. Сайт прэс-клуба знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **https://press-club.by** і яго галоўная старонка выглядае даволі прывабна і практычна. Усе выйсці на рубрыкі месяцца ўверсе выяўлення, але на іх можна трапіць папросту перасоўваючы выяўленне зверху ўніз.

„Прэс-клуб — гэта пляцоўка для прафесійнага развіцця медыясупольнасці. Гэта нефармальнае аб’яднанне медыяпрафесіяналаў, усіх тых, хто хацеў бы ўдасканаліць свае журналісцкія ўменні і працаваць у рытме прафесійных стандартаў і трэндаў. Мы адкрытыя для ўсіх, хто хоча развівацца, вучыцца, хто мае магчымасць і жаданне падзяліцца сваім досведам з калегамі”, — так азначаюць прэс-клуб тыя, хто ствараў у Беларусі. А гэта 23 журналісты, галоўныя рэдактары і выдаўцы. Створаны ў чэрвені 2012 года, беларускі прэс-клуб у чэрвені 2014 стаў сябрам Міжнароднай асацыяцыі Прэс-клубаў — International Association of Press Clubs (IAPC). У лістападзе 2015 года ў Беларусі была зарэгістраваная культурна-асветная ўстанова „Журналісцкая майстэрня Прэс-клуб”. Уся гэта інфармацыя змешчана на старонцы „Пра нас”. Там жа распавядаецца пра доўгатэрміновыя журналісцкія школы і стажыроўкі ў медыях па ўсім свеце.

Пра важныя, на думку супрацоўнікаў прэс-клуба, падзеі распавядаецца на першай у пераліку адпаведнай рубрыцы. Да такіх падзей яны адносяць разнастайныя прэс-канферэнцыі, лекцыі, майстар-класы, прэзентацыі. Праўда, апошнія датуюцца ліпенем, відаць, на жнівень прэс-клуб пайшоў у калектыўны адпачынак.

Сярод іншых рубрык сайта: „Майстар-класы”, „Відэакейсы”, „Досвед”, „Магчымасці”, „Медыяток”, „Нашы госці”, „Галерэя” і „Прэс-клубы ў свеце”. У іх многіх паведамленні паўтараюцца, што, магчыма, зроблена адмыслова стваральнікамі сайта, каб карыстальнік не прапусціў нешта важнае.

Пры тым, што ўсе рубрыкі сайта вельмі цікавыя, з іх варта пазначыць „Медыяток”. У ім нямнога тэкставай інфармацыі, але многа відэакантэнта разнастайных дыскусій, якія арганізуе і праводзіць прэс-клуб. Там узнімаюцца найбольш актуальныя пытанні беларускага жыцця і журналісцкай працы.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Грамадзянскі голас Беларусі



## 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Адамовіча

Беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік Алесь Адамовіч нарадзіўся фактычна 3 жніўня 1927 г., але ва ўсіх афіцыйных дакументах фігуруе дата 3 верасня. Месца яго з’яўлення на свет — вёска Канюхі (Капыльскі раён). Паходзіў з сям’і службоўцаў, якая з 1928 г. пражывала ў мястэчку Глуша Бабруйскага раёна. У час Другой сусветнай вайны вучань Алесь Адамовіч — сувязны, з 1943 г. — партызан у атрадзе імя Кірава 37-й брыгады імя Пахоменкі Мінскага злучэння. У 1944-1945 гг. па накіраванні Цэнтральнага штаба партызанскага руху — студэнт Ленінагорскага горна-металургічнага тэхнікума (Алтайскі край).

У 1945 г. вярнуўся ў Беларусь, экстэрнам здаў экзамены за сярэднюю школу. У 1945-1950 гг. вучыўся на філалагічным факультэце БДУ, у 1953 г. скончыў аспірантуру пры ўніверсітэце і працаваў на кафедры беларускай літаратуры. У 1954-1962 гг. і з 1967 года — навуковы супрацоўнік, у 1976-1983 гг. — загадчык сектара літаратурных сувязей Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. У 1962-1966 гг. вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве, у 1964-1966 гг. выкладаў беларускую літаратуру ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. З 1966 г. зноў працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР. У 1982 г. у складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у працы XXXVII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. З 1987 г. — дырэктар навукова-даследчага Інстытута кінамастацтва ў Маскве. Абраны народным дэпутатам СССР на першых дэмакратычных выбарах 1989 г. Член-карэспандэнт АН БССР, здабыў ступень доктара філалагічных навук. З 1957 г. Адамовіч — сябра Саюза пісьменнікаў, з 1989 г. — Беларускага ПЭН-цэнтра.

Як крытык і літаратуразнавец выступіў у друку ў 1950 г. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Аўтар шматлікіх навуковых прац. Выйшлі з друку яго раман „Война под крышами” (1960), які разам з раманам „Сыновья уходят в бой” склалі дылогію „Партизаны” (1963, па сцэнарыі пісьменніка пастаўлена аднайменная кінадылогія, 1970), „Хатынская аповесць” (Масква, 1972; на беларускай мове ў 1976, інсцэніравана ў 1977), некалькі аповесцей. У 1985 г. на „Масфільме” пастаўлены двухсерыйны мастацкі фільм „Ідзі і глядзі” (сцэнарый Алеся Адамовіча і рэжысёра Элема Клімава, у аснову якога пакладзены „Хатынская аповесць” і „Каратели”). Фільм узяў залаты прыз на Сусветным кінафестывалі ў Маскве (1985). Кінастужка трапіла ў спіс брытанскай тэлевізійнай перадачы „50 фільмаў, якія трэба паглядзець, перш чым памерці”. У 1987 г. выйшла кніга апавяданняў і эсэ „Моление о будущем”. Адамовіч разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам — адзін з аўтараў эпахальнай дакументальнай кнігі „Я з вогненнай вёскі...” (1975), а таксама з Даніілам Граніным — „Блокадной книги” (1979, 2-е, поўнае выданне, у перакладзе на беларускую мову ў 1985).

Алесь Адамовіч адным з першых узняў у літаратуры тэму Чарнобыльскай катастрофы, яе сапраўдных маштабаў. Ягоны голас быў голасам сумлення тагачаснай беларускай інтэлігенцыі. Актыўна падтрымліваў стварэнне Беларускага народнага фронту. Быў сустаршынёй грамадскай рады гісторыка-асветніцкага таварыства „Мемарыял”.

Памёр Алесь Адамовіч 26 студзеня 1994 г. у Маскве ад хваробы сэрца. Здарылася гэта адразу пасля выступу ў Вярхоўным судзе Расіі з прамовай у падтрымку маёмасных правоў пісьменнікаў Масквы і Міжнароднага літаратурнага фонду. Пахаваны Адамовіч у роднай мясцовасці Глуша на Бабруйшчыне. У Маскве ў цэнтры горада ўсталявана памятная шыльда на доме, у якім ён жыў.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На рэабілітацыйным аддзяленні (5)



■ Васіль Балтручук са шваграм Алёшам Белеўскім

Канчаўся тыдзень маёй шпіталізацыі на рэабілітацыйным аддзяленні. У сераду на лекарскім аглядзе ардынатар заявіў Петрусю, што ў панядзелак будзе выпісаны дадому. Войтку тэрмін выхаду назначыў на аўторак. У суботу Пятрусь падаўся на звальненне. Гміна ў Мельніку арганізавала імпрэзу і самаўрадаўцы запрасілі яго на святкаванні... У нядзелю аднастайна сцякаў час. Алёша падаўся на сустрэчу з жонкай, Войтак — у парк, а я заняўся папаўненнем свайго дзённіка і крыжаванкамі. У панядзелак мы развіталіся з Петрусём, наступнага дня з Войткам. Мне перадалі пульт ад тэлевізара. «Ты будзеш кіраўніком», — сказаў Пятрусь, паціскаючы на развітанне руку. Санітаркі не паспелі абмяняць пасцелі, а ўжо «навічкі» чакалі. Нам прызначылі двух пацыянтаў з лягчэйшымі захворваннямі пасля кровазліцця — дзядулю з Барысаўкі і Генрыка з-пад Браньска. Мы з Алёшам «шэфавалі». Дзядулю Пятра часта наведвалі жонка з сынам, паколькі жылі непадалёк шпіталя. Генрык хутка наладзіў знаёмства з калегамі з суседняй палаты. Амаль штодзень выходзілі яны на даўжэйшыя «прагулкі». Цікавы гэта быў кампаньён. Шпітальнага харчавання яму было малавата, дабаўку прыносіў з калідорнага халадзільніка. Не любіў звычайных булачак-кайзэрак і абменьваўся са мною на хлеб. Але заядаўся шпітальным дражджавым пячэннем, якое па вялікай лусце давалі нам кожны другі дзень. Аднойчы я наладзіў размову з Генрыкам. Пацікавіўся яго радаводам.

Наш прыяцель па палаце выходзіў з пасёлка з-пад Браньска. Жыве з жонкаю, сынам і нявесткай. У іх трынаццаць гектараў поля. Шэсць гектараў пад засевамі. Займаюцца жывёлагадоўляй. Іх статак налічвае трынаццаць дойных кароў. Гаспадарка ў іх механізаваная. Карыстаюцца неабходнымі сельскагаспадарчымі машынамі, камбайнам. Кожны другі дзень аўтацыстэрна забірае каля тысячы літраў малака. Паколькі жывуць на калёніі, дык няма ў іх водаправода. Збудавалі артэзіянскі калодзеж. Перад вайною на хутары жыло 22 гаспадароў. Засталося шэсць. Апошнія перасяліліся ў вёску. У мінулым жылі ў драўлянай, аблепленай глінай хатцы. Пасля вайны з бярвён збудавалі шыкарны дом. Генрык пенсіянер. На гаспадарку не спяшаецца.

— Ёсць каму працаваць. Няхай маладыя займаюцца. А пенсіянерам належыцца адпачынак, — заявіў з усмешкай.

У час шпітальных наведванняў у нашу палату зайшоў рослы мужчына, запытаў пра Алёшу Белеўскага. Адрэкамендаваўся Алёшыным шваграм. Папрасіў я госця прысесці.

— Адкуль будзеш родам? — папытаў я прышэльца.

З Махнатага... — заявіў. — Васіль Балтручук, а жыву на калёніі ў Арэшкаве ў агратурыстычнай кватэры «Купала». Калі я намякнуў пра свае знаёмства ў Махнатым і пра гэта, што пішу ў «Ніву», дык мой сразмоўца запытаў: — А якое твaё прозвішча? Сідарук?.. Зараз прыпамінаю, — прыжмурыўшы вочы загаварыў Васіль. — У пяцьдзясят дзявятым годзе ты прыязджаў у Махнатае. Канцэрты арганізаваў. Казалі, што тады быў вялікім «дзеячам». А мы з Алёшкам Герасімюком мастацкі калектыў у Махнатым арганізавалі. Былі ініцыятарамі заснавання ў канцы пяцідзясятых гадоў сельскагаспадарчага кааператыва. У 1959 г. з канцэртам выступалі ў Белавежы. Акампанаваў нам гарманіст з Кленік. Спявалі «Ой туманы, мои растуманы» і «Жыву ў Нямеччыне». Мне прызначылі другую ўзнагароду за сольны выступ, гарманісту — першую. Пасля пятнаццаць гадоў працаваў я ў Гайнаўскім кааператыве «Чын», а зараз з'яўляюся старшынёю гміннага гуртка пенсіянераў у Гайнаўцы, а жыву ў Арэшкаве, — завяршыў аповед мой новы кампаньён Васіль Балтручук.

У палату вярнуўся Алёша Белеўскі. Васіль перадаў швагру падарунак «для хворага» — шакаладку, ласункі і пячэнне. Для сімпатычных сяброў раблю памятны здымак. Тады — да новай сустрэчы!...

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Дажынкавы фэст у Нараўцы

**3 верасня** гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца традыцыйны дажынкавы фэст. Распачнецца ён а гадзіне 15-й. У праграме мерапрыемства, між іншым, экуменічная малітва, уручэнне ўзнагарод пераможцам конкурсаў на найпрыгажэйшы дажынкавы вянок ды на найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы, уручэнне значкоў „Заслужаны для сельскай гаспадаркі”, выстаўка народнага рукадзелля ды багаты калектывамі канцэрт.

З канцэртам выступяць айчынныя і замежныя гурты: „Вясна” з Беластока. „Сэвэн” з Бельска-Падляшскага, „Росы” з Рыбалаў, „Цаглінкі” са Старога Ляўкова, „Нараўчанкі” з Нараўкі, „Аколіца” з Дагды (Латвія), „Вечарынка” з Залесся” (Беларусь). Зоркай вечара будзе шырокавядомы эстрадны калектыў „АС” з Беластока.

Фэст арганізуюць Гмінны асяродак культуры і Гміннае ўпраўленне ў Нараўцы.

**(яц)**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування **Юры Каліну** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці бацькі **Сяргея**.

**рэдакцыя Нівы
і сябры**

# Адгаданка

**1.** валакністая тканка, што звязвае мозг з іншымі органамі цела, **2.** папулярная камедыя Янкі Купалы, **3.** выкарыстанне, прымяненне, у якім ... жыта, **4.** верхняя частка твару чалавека, **5.** начная птушка атрада соў або пануры чалавек, **6.** любіць узяць, **7.** асабістае свята ў дзень аднайменнага святога, **8.** сталіца Індыі, **9.** знатны слой грамадства, **10.** бутэлька, **11.** белая вадкасць з малочных залоз, **12.** бусліны голас, **13.** квадратны корань з чатырох.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Аўт, банк, нага, Жан, „Іж”, Іоў, яхта.

Рашэнне: **Кожная хата ў жніўні багата**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 03.09 — 09.09

**(22.03. — 20.04.)** Навучыся кіраваць сваімі эмоцыямі і быць стрыманым. Будзь больш асцярожным і пераборлівым у выказваннях. Хоць не павінна здарыцца ніякіх кур'ёзаў, самакантроль — рэч карысная. Паспрабуй не мітусіцца і не прымаць рашэнні хаатычна. Спыніся і збярыся з думкамі. Важныя справы плануй загадзя і запісвай у прыярытэтнай паслядоўнасці. Моцна здзівішся, што ў цябе куча вольнага часу!

**(21.04. — 21.05.)** Баявы настрой і мэтанакіраванасць. Зможаш скарыць самыя складаныя вяршыні і дамагчыся neверагодных вынікаў! Не выпраўляй тое, што і так спраўна. Толькі пазітыўны настрой дапаможа ўстаць на правільны шлях і зрабіць разумныя высновы. Не пераскоквай самога сябе, заставайся сабой, расстаў прыярытэты, складзі планы і дзейнічай. Час паспяховы і ўдалы ва ўсіх сферах жыцця. Можаш смела кідаць выклік лёсу і ставіць недасяжныя мэты. Зробіш нават нерэальнае!

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш ціха і спакойна дамагацца сваіх мэт, пазбягаючы публікі і залішняй цікаўнасці. Аднак, калі першыя вынікі тваіх прац стануць бачнымі, славы не пазбегнеш! Будзь упэўнены ў сваіх сілах і патэнцыяле, усё маеш, нават у лішку! Выдатная матывацыя для новых здзяйсненняў, пераадолення ўсіх перашкод. Шмат магчымасцей для рэалізацыі задуманага і ажыццяўлення мараў. Ва ўсім павінен быць парадак — у думках, у душы, на працы, у дакументах, дома.

**(23.06. — 23.07.)** Знойдзеш занятак, каб палепшыць свой вольны час і прынесці карысць грамадству. Фартуна Ракам усміхаецца і ім няма пра што турбавацца. Усё будзе ісці па твайму сцэнарыю. Але сцеражыся зорнай хваробы! Будзь спагадлівы і талерантны. А шчасце тваё зусім побач.

**(24.07. — 23.08.)** Шмат станоўчых эмоцый, новыя прыемныя пачуцці, новыя знаёмыя і сябры, а некаторыя Львы сутыкнуцца з будучым спадарожнікам жыцця. Сітуацыю часам паглядзі вачыма староннягa гледача. Не перабольшвай сур'ёзнасці пытанняў і не ўскладняй сітуацыі.

**(24.08. — 23.09.)** Пазбягай пустых і бессэнсоўных абяцанняў, якія ты не ў стане выканаць. Вядзі сябе стрымана і шануй правілы этыкету. Не варта выліваць душу першаму сустрэчнаму, ды і блізкім знаёмым таксама. Пазбягай блізкасці з падступнымі і прагнымі людзьмі. Прыліў натхнення і сіл падштурхне цябе на вялікія дасягненні, прымусіць нестандартна думаць і прымаць выразныя і канкрэтныя рашэнні, што з'яўляецца выдатным інструментам для дасягнення поспеху.

**(24.09. — 23.10.)** Нягледзячы на тое, што вакол цябе будзе маса выгадных прапаноў, не паддавайся спакусе і не стаў грошай на першае месца. Прыярытэтны не матэрыяльны бок жыцця, а духоўны. Старайся папоўніць дэфіцыт зносін, ведаў, навыкаў, зразумей сябе. Не знаходзься ў ганарлівай адзіноце працяглы час, цішыня таксама аглушае.

**(24.10. — 22.11.)** Пазбягай канфліктных сітуацый, а тым больш актыўнага ў іх удзелу. Будзь прыязным і спагадлівым, выслухай чалавека і паважай яго пункт гледжання. Ты павінен выразна бачыць свой шлях. Варта адмовіцца ад дадатковых абавязкаў або незапланаваных спраў. Непатрэбная табе лішняя нагрузка. Кантралюй эмацыйныя парывы.

**(23.11. — 22.12.)** Чым больш будзеш жадаць, тым больш атрымаеш у выніку. Не стрымлівай сваіх жаданняў і фантазіі, мар і паступова павышай планку, каб выкарыстаць свой поспех да максімуму. У самым пачатку шляху трэба мець на ўзбраенні выразны план канкрэтных дзеянняў, а таксама яркую карцінку чаканага выніку. Захоўвай упэўненасць і цвёрдасць, не сумнявайся ў сваіх сілах. Пачатак восені багаты на энергетычныя патокі і напоўніць цябе неверагоднай хваляй натхнення.

**(23.12. — 20.01.)** Твае планы настолькі грандыёзныя, што могуць некаторым людзям здацца абсурднымі, але гэта цябе не павінна хваляваць. Упарта працуй, ідзі наперад, пераадольвай усе перашкоды і расці як асоба. Не адмаўляйся ад шчырай дапамогі. Але спадзявайся толькі на сябе.

**(21.01. — 19.02.)** Нечакана паступіць файная прапанова, ад якой проста нельга адмаўляцца. Добра ўсё абдумай, узваж і пералічы, каб у самы адказны момант быць у поўным узбраенні і гoдна адрэагаваць на сюрпрыз. Прапанова будзе звязана з тваёй марай. Не бойся рызыкаваць і змяніць сваё жыццё да лепшага. Будзь смялейшы і больш рашучы. Чакаюць цябе добрыя перспектывы і магчымасці, у выніку знойдзеш сваё шчасце і забяспечаную будучыню.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш увасабленнем поспеху і шчасця. Усе вакол цябе цэняць і паважаюць. Дапамагай навакольным людзям — каму парадай, каму справай, а каго проста выслухай. Табе будзе здавацца, што трапіў у казку, але гэтак будзе на самой справе. Зоркі раяць у падзяку Фартуне тварыць дабро вакол сябе. Не ўсім так вязе, як табе!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская,Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (96)

У разнаколернай, задбанай хаце бабы Мані нідзе я не прыкмеціла рэквізітаў патрэбных для лячэбнай магіі. Ніякага пакулля, чырвоных латак, пёраў з хваста чорнага пеўня ці пляшак з настоем на мухаморах, нічога такога я не згледзела. Адначасова штось важкае адчувалася побач, быццам той цэлы магічны арсенал існаваў як віртуальная здагадка, ды час ад часу ажыццяўляўся пад гукі рытмічнай замовы. На кожную хваробу баба Маня мае асобную замову.

— Замовы гэта малітвы, — кажа.

У старажытным Нобелі прысутнасць народных лекараў успрымаюць як частку тоеснасці. Яны тут з дзеда прадзеда. Іх сцерагуць ад нездаровай зацікаўленасці, бо гэта паслабляе моц. Пра тое, што Марыя — шаптуха, я даведалася пад канец нашай сустрэчы. Вестка, для мяне надзвычай каштоўная, прагучала мімаходзь. Гэта быў момант, на які я падсвядома разлічвала і чакала. Да таго тры-чатыры гадзіны ішлі жыццёвыя ўспаміны пра маладзёвыя вандроўкі, сірочыя слёзы і хваробы, ахвяраванні і падарункі лёсу. Марыя пераняла лячэбную практыку па жаданні і волі суседкі. Раней прысвяціла ёй сем гадоў жыцця.

— Ёй было столькі гадоў, як мне зараз, — успамінае 93-гадовая Марыя. — Яна прыйшла да мяне і кажа: — *Моя дітінонько, ходы до мэне, да будэш ты мэнэ глядіты, да я тобіэ хату оддам... (Любая дзетка, хадзі да мяне жыць, будзеш мяне даглядаць а я табе хату пакіну)...*

Прапанова з'явілася ў жаданы момант. Якраз участак, на якім хілілася хатка Марыі, спатрэбіўся пад пабудову новай школы і ёй неабходна было шукаць новае месца. Пасялілася на панадворку старэчы, сваю хатку прыставіла да хлеўчука, абсталявалася.

— Праўда, баба то з характарам была, — адзначае Марыя. — Ёй трэба было добра дагаджаць, пераносіць колкія заўвагі. Але я разумела, што да маленькіх ды старэч неабходная ласка і спагада, трэба ім даравань правіны.

* * *

У хаце бабы Мані час расцягнуўся далёка па-за свядомасць сучасных жыхароў Нобеля. Не менш каштоўнай з'явай явіўся мясцовы дыялект, з *соканнем*, архаічнай лексікай ды паўсюдным слоўцам *да*, якое падбівала рытм гутаркі і напамінала пра жывы працяг пакаленняў. У аповедах бабы Мані адначасова гучала мова дзевятнаццатага і дваццаць першага стагоддзяў. Марыя дабывала з памяці архаічныя слоўцы тыпу: *ондэ* (тут), *очутівса* (апынуўся), *да пораюса на кухні* (я завіхаюся ў кухні). Разам з аповедамі ажываў дух патрыярхальнага ладу, які грунтаваўся на мудрасці старых і памяці продкаў. Самы важны ўспамін датычыць благаслаўлення, якое Марыя атрымала ад суседкі-вядункі.

— Аднойчы я прыйшла з работы ды іду паглядзець бабку. А яна сядзіць, чакае мяне ды кажа: «*О, моя дітонько, да як я йысты хочу!» Я до бабы, вэду за руку, да баба нэ можэ йысты. Я е довэла в кухную, да даю ложку, да вона йысты нэ можэ. (О, мая ты дзетка, мне надта хочацца есці! Я падышла да бабы, узяла за руку каб ісці з ёй на кухню, а яна не дасць рады ісці. Я давяла яе на кухню, даю ў рукі лыжку, а яна есці не можа).*

Марыя пакарміла бабулю, адвяла яе на койку, а сама вярнулася на кухню і *пораецца* ля гаршкоў. А бабка зноў яе кліча:

— *Моя ты дітінонько, ходы но до мэнэ!*

Марыя падышла, а старэча ўзяла яе руку і кажа: — *Ну, я тэбэ поблагословлю, што ты мэнэ шчыро гляділа, як свою рідну. Нэхай тобіэ Господзь дасць здоровечко, як я достала. Коб дохторэ нэ знала — як я нэ знала. Нэхай Господзь дасць тобіэ сілу на всю жызнь — як я достала. Коб ты дожыла моіх рокіэ і дальшэ шчэ. Хай тэбэ Бог благословіт, як я благословлю!*

Яна перажагнала Марыю і лягла на свой ложак.

— І ўсё! — спыняе на момант свой расказ баба Маня. — Яна паляжала можа палову гадзіны і памерла.

Згодна з абяцаннем Марыя атрымала ў спадчыну хату і ўчастак зямлі. А разам з благаслаўленнем — дазвол і жаданне, каб пасля яе смерці лекаваць людзей і жывёл. Сёння ведае, як моцна дапамагала ёй благаслаўленне старэчы. Яно праяўлялася прытокам сілы, падказвала як змагацца з эпілепсіяй або пагасіць хворыя нервы, ад якіх звіваўся каўтун. У той час у Нобелі закрылі царкву і спявалі пра светлую будучыню камунізму. Праследавалі ведуноў і шаптух, народную медыцыну называлі цемрашальствам.

— А як каго прыцісне боль зубоў, — смяецца баба Маня, — да мяне ўсе за дапамогай ляцелі. Загадзя каб ніхто іх не пабачыў.

* * *

— Замовы — гэта малітвы, — паўтарае баба Маня. — Яны да Божай Маці і Усіх Святых. Галоўна, каб супакоіць *людзіну*, прывесці яе ў душэўную раўнавагу.

На гэта патрэбная благадаць, дапамога Вышыні. Марыя найлепш адчувае сябе ў царкве. Любоў да рэлігіі вынесла з роднай хаты. У дзесяць гадоў стала з бацькам хадзіць на кліраc. Пасля, калі зачынілі царкву, хор збіраўся ў іх хаце.

У наваколлі працавала толькі адна царква ў Марочным. Наблянкі дамаўляліся па дзве-тры ды ішлі на багаслужбу. Хоць у адзін бок дарога доўжылася пятнаццаць кіламетраў, ніхто не наракаў. Урэшце, у пачатку дзевяностых, калі адкрылі дзверы нобельскай царквы, Марыі даручылі надта важную задачу. Людзі хацелі, каб багаслужбы правілі па-колішняму, згодна з мясцовай традыцыяй. А Марыя памятала ўсё: парадак кожнай багаслужбы, ведала, калі трэба перажагнацца і як паводзіць сябе ў царкве. Памятала, як у кожнай малітве ідуць жаночыя ды мужчынскія галасы, калі якія *гласы, ектені, катавасі...* Дзякуючы ёй ажылі мясцовыя напевы, якіх пачатак сягаў дзесьці ў старажытнае Пінска-Тураўскае княства...

— Бо Нобель калісь *славіўся* на ўсю аколіцу, — кажа 78-гадова Галя Шклёда.

— Старыя людзі гаварылі, што тут было сем цэркваў. У кожны дзень багаслужбу правілі ў іншай царкве. Цэрквы стаялі ў мястэчку і на ўзгорках ля возера: ва ўрочышчах *Радовніца, Дзедовка, Нэвкі, Замісця*. А цяпер мы засталіся без свайго бацюшкі, — заключае слаўны аповед баба Галя, — толькі час ад часу наязджае святар з Локніцы.

— Што здарылася?

— Сёння няма такіх бацюшкаў, — з далікатнасцю паясняе баба Галя, — каб прыжыліся на адным месцы. Праўда, першы служыў шмат гадоў, але не пагаджаўся з людзьмі, то ўзялі і прагналі. А другі надта добры, людзі хацелі, каб у нас жыў. Але тут таксама не зладзілася, бо матушцы не спадабалася. Яна ўзяла дзяцей і з'ехала ў горад. А ён пабыў яшчэ год і таксама з'ехаў. Ведаеце, яны маладыя, — кажа на апраўданне баба Галя, — ім хацелася да свету...



■ Марыя (у цэнтры), Галя Багдановіч (справа), спадарыня Маруся



■ Вера Масляк (злева), Галя Шклёда

* * *

Мне аднак не хацелася ад'язджаць з Нобеля ў свет. Месца завараўжыла і не адпускала ад сябе. Перад ад'ездам я схадзіла да бабы Мані на Ражок, каб падзякаваць ёй за расказы і песні. А яна ўзяла мяне за руку і павяла ў свой пакой. Ёй вельмі хацелася дакончыць размову. На сцяне на ганаровым месцы віднеў шлюбны партрэт мужа... з першай жонкай. Марыя ніколі не дазволіла сабе на зайздрасць.

Год пасля смерці старэчы Марыя выйшла замуж. Пасватаўся ўдавец, той самы мужчына, з якім калісь хацеў жаніць яе настаўнік Генрык Дамброўскі.

— Пасля смерці жонкі ён зразу *кінувса* да мяне і рашылася я пайсці за яго, — успамінае. Марыя прадала бабіну хатку ды зразу ўзялася наводзіць парадкі. Адрамантавала веранду, перакрыла хлявы, што стаялі пад саламянай страхой, збудавала *лёха*, то-бок склеп на панадворку.

Напрыканцы жыцця муж перайшоў складаную аперацыю на мачавік. Лекары папярэдзілі, што канец не за гарамі, смерць неўзабаве пастукае ў акно. Памятае, як тады цешыў яе кожны перажыты разам дзень. Не дазваляла яму працаваць. Прачыналася да ўсходу сонца і гатавала яду, карміла, падавала лекі. Пасля бегла і корпалася пры гаспадарцы. «Ён хоць слабенькі, — думала, — то няхай хоць пабудзе». Разам абмяркоўвалі кожны крок, кожную навіну.

— Мне з ім было добра, — кажа сцішаным, ласкавым голасам, — ён шкадаваў мяне.

Але, як кажуць, са шчасцем кантракт не падпішаш. Яно нечакана прыходзіць і нечакана ўцякае. Пасля смерці мужа на сівую галаву Марыі нечакана зваліліся клопаты. Дзве дачкі па першай жонцы намагаліся вярнуць сабе сялібу на Ражку. Марыі, на схіле гадоў, прыйшлося судзіцца. Добра, што заступілася за ёй галавіха Валя Ташлыковіч. Не дазволіла прагнаць з хаты. Пасля чатырох судоў з цэлай прасторнай хаты Марыі засудзілі права на адзін пакой, магчымасць карыстацца калідорам і пабываць на верандзе, якую калісь падняла з руіны.

— Што гэта за час настаў, — не хавае крыўды баба Маня. — Куды яны мяне выганяюць! Каб я не мела права памерці ў сваёй хаце! Чаму яны нічога не разумеюць? Я гэтых дзяўчат як сваіх даглядала.

(працяг будзе)

❖Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 36